+тэлепраграма № 46 (308) 13 сьнежня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



АНОНС

## Калядны нумар "НН"



### 24 старонкі

Палітычныя, эканамічныя, культурныя вынікі году. Найлепшыя фатаздымкі году. Бэстсэлеры году. Мыльныя бурбалкі году. Сем апавяданьняў на сем зімовых вечароў: Уладзімер Арлоў, Наталка Бабіна, Райманд Карвэр, Севярын Квяткоўскі, Леанід Маракоў, Вінцэсь Мудроў, Вольга Такарчук. Пытайцеся ў шапіках ад 26 сьнежня. Вясёлых Калядаў з "Нашай Нівай"!

## Фэст у Сьвіры

**6 сьнежня ў мястэчку Сьвір на Мядзельшчыне адзначылі 550-годзьдзе мясцовай парафіі сьвятога Мікалая. Першы драўляны касьцёл пабудавалі тут у 1452 г. Праз два стагодзьдзі пачалося ўзьвядзеньне новага, мураванага, які асьвяцілі ў 1671 г. У 1909 г. пабудавалі новую бажніцу. За савецкім часам касьцёл зачынілі, а з пачатку 80-х у сьвятыні месьціўся філіял Смургонскага заводу аптычнага станкабудаваньня. Касьцёл "аджыў" у 1990 г.**



Анатоль Клешчук

На ўрачыстасьць сабраліся вернікі зь мястэчка і навакольных вёсак, прыехалі сьвятары зь Мядзельшчыны, Вільні, Польшчы. Імшу правіў дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі Кірыла Клімовіч. У Сьвір прывезьлі блаславеньне ад Яна Паўла II. А дзеці, якіх на сьвяце было дужа многа, атрымалі падарункі "ад сьвятога Мікалая".

**Алесь Высоцкі, Мядзел**

## Зіма паслоў



Замежная палітыка Беларусі зьменлівая, як надвор'е ў эпоху глябальнага пацяпленьня. Аднак дзьве яе рысы нязьменна ўражваюць сёлета і розьняць ад папярэдніх гадоў. Гэта яе прагматызм і незалежнасьць ад замежнай палітыкі Расеі. Нашы дыпляматы гатовыя гандляваць хоць з Іракам. А піруэты на заходнім і ўсходнім франтах кепска прыхоўваюць тое, што нашы генэральныя мэты адрозныя ад расейскіх.

10 гадоў таму беларускія пасольствы за мяжой здаваліся неверагоднай забаўкай маладой дзяржавы, новапрызначаныя паслы ў Менску туліліся ў гатэлі "Беларусь". Цяпер за сьпінаю — цэлая дыпляматычная гісторыя. Нацыянал-камуніст Краўчанка, вараг Латыпаў. Драздоўскі скандал, эпапэя зь місіяй АБСЭ (перамовы аб яе вяртаньні маюць вось-вось распачацца ў Вене). А якіх паслоў бачылі дыпляматычныя раўты: хваласьпеўцу беларускім жанчынам Фасье, гжэчнага пана Козака, інтэлектуала і сябра інтэлектуалаў Машкевіча, зусім не жалезную лэдзі Пірс. Ну, і Вік — белы бусел Вік, аздоба галерэі.

У Беларусь на тым тыдні прызначаныя два новыя паслы, два палякі: Тадэвуш Паўляк і Стэфан Шмялеўскі. Першы будзе прадстаўляць Польшчу, другі — Францыю. Апошні паходзіць з старога роду Хмялеўскіх, толькі цяпер ягонае прозьвішча вымаўляецца на францускі манер. Абодва — кадравыя дыпляматы, гавораць, сярод іншых моваў, па-расейску. Не па-беларуску, на жаль. Дыпкорпус пакуль ня вучыць нашай мовы. Гэта — адваротны бок беларускага прагматызму. Калі наша МЗС зь лёгкасьцю ахвяруе вечнымі нацыянальнымі вартасьцямі, чаму іх мусяць шанаваць іншаземцы.

Сярод новых беларускіх непрызначэньняў — Казулін. Сярод прызначэньняў — Міхневіч (у Эгіпэт), Даўгаполава (у Арменію), Варанецкі (у Славаччыну), Латушка (у Польшчу). Самых моцных "гаспадарнікаў" наша МЗС накіроўвае на арабскі Ўсход, не на Захад. Былы прэс-сакратар МЗС — самы малады пасол у нашай гісторыі. Польскія СМІ з задавальненьнем адзначылі яго як дыплямата, што размаўляе па-польску. Усе — чыноўнікі постсавецкага, ужо не абкамаўскага разьліву. РБшная бюракратыя.

Сапраўды, гэта яшчэ не такая беларуская дзяржава, за якую аддавалі жыцьці змагары-незалежнікі, але ўсё ж — дзяржава. Хай сабе пакуль без рамантызму і асаблівых прынцыпаў.

**Барыс Тумар**

## Усе роўныя, але ёсьць раўнейшыя

**Прадстаўнікоў дэмакратычных партыяў і няўрадавых арганізацый не ўключылі ў тэрытарыяльныя камісіі на мясцовыя выбары.**

10 сьнежня сакратар Цэнтравыбаркаму Мікалай Лазавік падвёў рысу пад фармаваньнем тэрытарыяльных выбарчых камісіяў. У краіне створаныя 1673 камісіі, у якія ўвайшлі 13448 чалавек. Гэтыя людзі будуць атрымліваць заробак з разьліку сярэдні па краіне плюс 10% "за шкоднасьць". Налічваца ён будзе за фактычна адпрацаваныя ў камісіі дні.

Сярод сяброў камісіяў 11% — моладзь да 30 гадоў, 56,46% маюць досьвед такой працы. Згодна з заканадаўствам, тры суб'екты маюць права вылучаць кандыдатаў у камісіі: палітычныя партыі (і грамадзкія арганізацыі), працоўныя калектывы ды грамадзяне праз збор подпісаў.

"Усе тры суб'екты актыўна скарысталіся сваім правам", — кажа М.Лазавік. Але чамусьці прадстаўнікоў дэмакратычных партыяў у камісіях вобмаль: адзін лібэрал з АГП ды адзін сябар БНФ. Затое КПБ мае ў камісіях 21 прадстаўніка, Партыя камуністаў Беларуская — 19, партыя Гайдукевіча — 11, Народная Грамада — 5, Аграрная партыя — 2. Па адным чальцы маюць Беларуская патрыятычная партыя ды Сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды.

М.Лазавік кажа, што многія палітычныя партыі самі сябе загналі ў кут. "Найпершая памылка — вылучэньне кандыдатаў у камісіі рэспубліканскімі кіроўнымі органамі". У якасьці прыкладу сакратар ЦВК прывёў гісторыю з Аляксандрам Фядутам, якога ў склад Менскай гарадзкой камісіі вылучыў рэспубліканскі камітэт арганізацыі "Яблоко": "Мы жадалі б бачыць гэтага чалавека ў камісіі.

Працяг на старонцы 2.

### Самасуд

**У Аршанскі РАУС прыйшоў 30-гадовы мужчына ды прызнаўся, што забіў чалавека.** На першым допыце ён паведаміў, што ягоную жонку згвалтавалі, калі тая вечарам вярталася дадому зь вясковага сьвята. Назвала пацярпелая й імя гвалтаўніка. Муж сустрэў таго ў бязьлюдным месцы, зьбіў да сьмерці, а цела схаваў у склепе закінутай вясковай хаты. Праз тыдзень забойца паведаміў жонцы пра самасуд, яна ж парала ісьці ў міліцыю прызнавацца. Пасьля ўдакладненьня дэталяў злачынства адбудзецца суд. Хутчэй за ўсё, яшчэ адна сям'я з дваімі дзецьмі застанецца без карміцельца.

### Беспрацоўны мурын

**У Аршанскім рэгіянальным цэнтры занятасьці насельніцтва стаў на ўлік мясцовы жыхар — ураджэнец адной з афрыканскіх краін.** У 1995 г. ён скончыў бібліятэчнае аддзяленьне менскага Ўнівэрсытэту культуры. Ажаніўся з аршанскай дзяўчынай, атрымаў пасьведчаньне на права жыхарства. Але ўладкавацца на працу ня змог: няма вакансіяў. Цемнаскуры аршанец зьбіраецца перакваліфікавацца ў майстра апрацоўчых работаў.




Мікола Маркевіч, зьняволены рэдактар забароненай беларускай газэты "Пагоня", нарыхтоўвае дровы на "хіміі" ў Асіпавічах. Сьнежань 2002.

### Сымбалі Барані

**Сэсія Баранскага гарсавету (Аршаншчына) зацьвердзіла гарадзкую сымболіку. Места займела яе ўпершыню.** Герб уяўляе сабой гішпанскі шчыт, у блакітным полі якога — срэбны кавалерскі крыж, пад імі — залатая злучына з выявай паляўнічага ражка. Сьцяг Барані — прастакутнае белае палотнішча з выявай гербу пасярод, у ніжняй частцы сьцяга — дзьве гарызантальныя паласы рознай шырыні залатога і блакітнага колераў. Зацьверджаная сымболіка блізкая да аршанскай. Ражок узяты з "малога" гербу Радзівілаў "Трубы". Менавіта князь Крыштоф Радзівіл у 1598 г. "залажыў на гасьцінцы ад Барысава да Воршы места на Барані..."

### Трагедыя праз гарэлку

**У вёсцы Завельцы, што на Астравеччыне, 49-гадовы сын забіў бацьку.** Абодва былі п'яныя.

### Падарункі ад Бароўкі

**Колісь Мар'ян Бароўка жыў у вёсцы Кумпяны Астравецкага раёну.** Лёс склаўся так, што цяпер ён з жонкай і дачкой жыве ў Амэрыцы. На радзіму штогод прыяжджае адпачыць і... не з пустымі рукамі. Нядаўна ён прывёз для раённай больніцы прыборы інтэнсіўнай тэрапіі, апарат для абсьледаваньня цяжарных жанчынаў і мноства аднаразовых мэдычных прылад.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

### Брак дактароў

**У апошнія гады ў больніцах Крычаўшчыны цяжка з дактарамі.** Так, на амаль 45 тыс. жыхароў ёсьць усяго адзін акуліст. Раёну патрабуецца 140 дактароў, а працуе толькі 78, пры гэтым 30% зь іх — пэнсійнага веку. Штогод на Крычаўшчыну прыяжджае некалькі дзясяткаў маладых спэцыялістаў. Але, адпрацаваўшы тры гады, яны звычайна ўцякаюць. Прычына — адсутнасьць жыльля. За дзесяць гадоў выканкам ня даў ніводнай кватэры для мэдычных работнікаў.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### "Тэракт" у больніцы

**Днямі ў Бялынічах з патасам адсьвяткавалі 200-годзьдзе з дня адкрыцьця ў мястэчку больніцы.** На ўрачыстасьцях прысутнічалі кіраўнікі мясцовых прадпрыемстваў і арганізацыяў, дэпутат палаты прадстаўнікоў У.Канаплёў, працаўнікі аблвыканкаму і абласнога ўпраўленьня аховы здароўя. А напярэдадні, прыкладна а 12-й дня, невядомыя асобы распырскалі ў прыбіральні палiклінікі балёнік з газам, што выкарыстоўваецца для самаабароны. За хвіліны ўдушлівае зьмесьціва балёніка распаўсюдзілася па ўсіх паверхах. Хворыя і мэдыкі пачалі моцна кашляць, задыхацца.

Давялося эвакуяваць людзей ды адчыняць усе вокны. Ніхто моцна не пацярпеў, акрамя хіба што аглядніц: ім давялося тыя вокны наноў заклейваць.

### Ці плаціш за English?

**Паміж бацькамі вучняў 2 "Б" клясы бялыніцкай СШ №1 з аднаго боку і дырэкцыяй школы ды кіраўніцтвам аддзелу адукацыі з другога ўсчаўся канфлікт.** У школе зрабілі платнымі ўрокі ангельскае мовы. Раней грошай за навучаньне не спаганялі. Гэта лягічна, бо прадмет уведзены ў школьны кампанэнт, гадзіны працы настаўніка затарыфікаваныя. Дый у СШ №2 плаціць за вывучэньне замежнай мовы ня трэба. Абурыў бацькоў нават ня кошт — 2800 рублёў у месяц. Яны паспрабавалі разабрацца ў сытуацыі й на свой зварот атрымалі адказ: урокі ангельскай мовы пераносяцца на суботу з павелічэньнем аплаты, а дзеці тых, хто адмовіцца плаціць, пераводзяцца з "спэцыялізаванае" клясы ў звычайныя. Людзі падаліся шукаць рады ў райвыканкам. Паводле папярэдняе інфармацыі, канфлікт будзе вырашаны на карысьць бацькоў і дзетак.

**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

### Скралі літары

**На тым тыдні ў Бабруйску ад зладзеяў пацярпелі два помнікі.** Невядомыя скралі дзесяць літараў з каляровага мэталу, разьмешчаных на помніку воінам з мэмарыялу па вуліцы Менскай. Таксама ў чарговы раз зьнік надпіс на камяні-помніку "Ахвярам рэпрэсіяў".

**Віктар Качан, Бабруйск**

## тыдзень нашага жыцьця

### Любові капец

**МЗС Расеі прапанавала "адкарэктаваць" дамову пра стварэньне саюзнае дзяржавы, каб канстытуцыйны акт не атрымаўся "адарваным ад рэальнасьці з-за калізіяў саюзнага і сувэрэнных заканадаўстваў".** Старшыня Думы Генадзь Селязьнёў заявіў, што пара адмовіцца ад ідэі стварэньня "саюзнае дзяржавы", абмежаваўшыся "саюзам дзяржаў". А наш кіраўнік савету рэспублікі Аляксандар Вайтовіч на чарговых інтэграцыйных вячорках у Пецярбурзе прапанаваў назваць утварэньне "Саюзам дэмакратычных дзяржаваў". Гучала б, як баявы кліч: Старшыня Вышэйшае Рады Саюзу Дэмакратычных Дзяржаў Аляксандар Лукашэнка!

### Масква прыдумае нам гімн

**Каля 20 варыянтаў гімну саюзнае дзяржавы праслухала камісія ў расейскай Думе.** Ніводзін, на шчасьце, не падышоў. Найлепшым палічылі твор расейскага поп-сьпевака Мікалая Баскава:

Встает заря поднебесная,  
Плывет чистый свет, словно музыка.  
Рассвет встречаем вновь вместе мы —  
Россия и Белоруссия.

У гэтым цырку бралі ўдзел і беларусы, сярод іх — намесьніца міністра інфармацыі Лілея Ананіч.

### Дзень правоў чалавека



**250 чалавек узялі 10 сьнежня ўдзел у акцыі, прысьвечанай Дню правоў чалавека.** Пасьля выступаў праваабаронцы Алеся Бяляцкага ды Зінаіды Гончарыхі людзі рушылі з Кастрычніцкае плошчы да будынку КДБ, каб аддаць пэтыцыю з патрабаваньнем высьвятліць лёсы зьніклых палітыкаў. Акцыя скончылася тым, што А.Бяляцкаму выпісалі позву ў Цэнтральны РУУС. Там ён напісаў тлумачальную і быў адпушчаны без складаньня пратаколу.

### У Віцебску — дэмкааліцыі

**Дэмакратычныя сілы Віцебску (лібэралы, сацыял-дэмакраты, "Зубр") утварылі перадвыбарны Камітэт грамадзкага дзеяньня "Віцебск".** Разам з нацыянальна-дэмакратычнай кааліцыяй "Новая Віцебшчына — XXI ст." яны будуць змагацца на мясцовых выбарах супраць кандыдатаў ад "партыі улады".

### Ірак прызнаўся

**У дасье па зброі масавага зьнішчэньня, перададзеным у ААН, Багдад прызнаў, што займаўся яе распрацоўкай.** Аднак іракцы кажуць, што плянавалі стварыць не дарагую атамную, а танную радыялягічную. Іракцкая апазыцыя тымчасам распачынае вучэньні на палігоне ў Вугоршчыне. А ЗША распаўсюдзіла дакумэнт, што тлумачыць стратэгічную абаронную дактрыну краіны. Амэрыка пакідае за сабой права атакаваць ядравай зброяй любую краіну, якая ўжыве супраць ЗША зброю масавага зьнішчэньня — атамную, хімічную ці бактэрыялягічную.

### Шыльда Ірме Яўнзэм

**На доме №23 па менскай вуліцы Маркса адкрылі мэмарыяльную дошку ў гонар сьпявачкі Ірмы Яўнзэм.** Латышка паводле паходжаньня, яна ў 1923 г. сталася першай заслужанай артысткай Беларусі. Добра ведала беларускія песьні, а ўвогуле выконвала песьні народаў сьвету на 60 мовах.

### Занялося ад начнога клюбу

**Пажар зьнішчыў частку гістарычнага цэнтру Эдынбургу.** Доўга пажарныя не маглі утаймаваць агонь на вузкіх вулках. А запалаў сярэднявечны горад ад сучаснага начнога клюбу *La Belle Angele*.

**Мікола Бугай**

# Усе роўныя, але ёсьць раўнейшыя

Працяг са старонкі 1.

Але Фядуту вылучылі кандыдатам не ад гарадзкой, а ад рэспубліканскай арганізацыі. Таму ён не ўвайшоў у камісію, хаця там яго лічылі ўжо ледзь не сваім чалавекам".

Папрасіць няўдачлівага прэтэндэнта перарабіць паперы ў выканкаме, вядома, не здагадаліся.

### Кіраваная дэмакратыя

У Партыі камуністаў такіх праблемаў не ўзьнікла, таму ПКБ і правяла ў камісіі 19 чалавек. Прасьцей кажучы, перш чым ісьці на выбары, трэба пачытаць Выбарчы кодэкс: якім бы дрэнным ён ні быў, закон ёсьць закон.

Адказны сакратар Управы БНФ Аляксей Кавалец пасьміхаецца: "Ня ведаю, што там у Фядуты і камуністаў, а нашых прадстаўнікоў секлі пад любымі падставамі і без падставаў. Мы вылучылі па Беларусі ў камісіі больш за 60 чалавек, і толькі адзін туды трапіў. Хоць нашы прадстаўнікі былі першымі ў сьпісах і вылучаліся ад мясцовых суполак. У нас ёсьць зьвесткі як з рэгіёнаў, так і зь Менску, што складзеныя ўжо сьпісы людзей, якіх у выканкамах называюць "дэпутатамі", — кажа А.Кавалец.

Магчымае непрызнаньне выбараў міжнароднай супольнасьцю ЦВК ня дужа хвалюе. "Дрэнна, калі Захад не прызнае выбараў. Але ж не прызнаў прэзыдэнцкіх — мы неяк перажылі. Ну і што здарыцца, калі Захад не прызнае нейкага сельсавету?" — пакеплівае сакратар ЦВК.

### Стандартаў няма

М.Лазавік ня ведае, чаму Беларусь адмовілася падпісаць Канвэнцыю аб стандартах дэмакратычных выбараў краінаў СНД. Старшыня ЦВК Расеі Аляксандар Вешнякоў выказаў непаразуменьне, чаму Беларусь "у асобе прэзыдэнта раптоўна адмовілася падпісаць гэты дакумэнт". А.Вешнякоў мяркуе, што шэраг палажэньняў беларускага выбарчага заканадаўства трэба карэктаваць. Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына апануе расейскаму калегу: "Выбарчае заканадаўства цалкам адпавядае Канвэнцыі". Чаму ж тады не падпісаць?

"Канвэнцыя аб стандартах дэмакратычных выбараў — той дакумэнт, над якім мы працавалі вельмі напружана цягам двух гадоў. Гэты дакумэнт цалкам нас задавальняе і ніякіх дадатковых перашкодаў для працы Цэнтравыбаркаму не стварае. Чаму ён не падпісаны Беларусяй — пытаньне не да мяне", — падкрэсьліў М.Лазавік.

### Трэба аднадушныя саветы

Сакратар Цэнтравыбаркаму пераканаsucc, што "парушэньняў у часе фармаваньня камісіяў ня выяўлена". Апазыцыя ж пэўная: пры такім складзе камісій ніхто не застрахаваны ад фальсыфікацыяў.

Кіраўнік выбарчага штабу ПКБ Аляксандар Пахлопка кажа, што "ў некаторых абласьцях, да прыкладу ў Гомельскай, нягледзячы на інцыдэнты ў Рэчыцы, Мазыры, Калінкавічах, камісіі фармаваліся больш дэмакратычна, чым мінулым разам. Гарадзеншчына ж як была, так і застаецца аплотам улады". А.Пахлопка пэўны, што фальсыфікацыі



ня толькі былі ў часе фармаваньня камісіяў, але непазьбежныя і надалей. "Што казаць, калі нават многія сябры нашай партыі — з тых, на каго можна націснуць. Самая неабароненая катэгорыя — настаўнікі; на аснове настаўнікаў будуць ня толькі стварацца камісіі, але менавіта іх будуць пхаць у дэпутаты, ставіць на чале саветаў. Напярэдадні рэфэрэндуму аб трэцім тэрміне ўладзе зноў патрэбныя аднадушныя саветы, якія той рэфэрэндум падтрымаюць", — заявіў А.Пахлопка.

**Глеб Хмяльніцкі**

**Да выбараў у мясцовыя саветы засталося тры месяцы. 22 сьнежня распачнецца вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты. Большасьць апазыцыйных партый і арганізацый абвесьцілі пра ўдзел у выбарах. Яны імкнуцца правесьці сваіх людзей у мясцовыя саветы, каб гэтыя палітыкі здабывалі досьвед і заваёўвалі аўтарытэт у выбаршчыкаў. "Сьвежая кроў" у мясцовых органах улады мусіць ажывіць іх, стварыць перадумовы для будучага рэфармаваньня. Наступным крокам апазыцыйных сілаў могуць стаць выбары ў парлямэнт. Посьпех у іх кардынальна зьмяніў бы палітычную сытуацыю ў краіне, а магчыма, і аднавіў бы колішнюю раўнавагу розных галінаў улады ў Беларусі.**
**Што ж за людзі будуць прабівацца ў мясцовыя органы ўлады? Зь якімі праграмамі яны пойдуць да выбаршчыкаў? І, нарэшце, ці вераць яны ў сваю перамогу? З такімі пытаньнямі мы зьвярнуліся да будучых кандыдатаў у дэпутаты, якія маюць намер балятавацца ў рэгіёнах.**



IBEX-PROMEDIA

# Маладыя прызыў

### Шанец — дзецям

У гарадзкі савет Мар'інай Горкі зьбіраецца балятавацца 27-гадовы **Алесь Міхалевіч**. Ён мае вышэйшую адукацыю — выпускнік юрыдычнага факультэту БДУ. З 2002 г. Міхалевіч узначальвае Менскую абласную арганізацыю Партыі БНФ.

"У мяне маленькая акруга — крыху больш за дзьве тысячы выбаршчыкаў. Цэнтар акругі й мікрараёну — СШ №1, адзіная беларускамоўная школа ў горадзе, — гаворыць А.Міхалевіч. У мікрараёне жывуць пераважна маладыя людзі — большасьць дамоў там збудаваныя як моладзевыя жыльлёвыя каапэратывы".

Асноўны лёзунг праграмы Міхалевіча — "Дамо нашым дзецям шанец!". Ня дзіва. У мікраёне адна школа, і большасьць сем'яў зьвязаныя зь ёй: хтосьці там працуе, у многіх дзеці ды ўнукі — школьнікі. Тым больш што А.Міхалевіч ужо раней дапамагаў гэтай навучальнай установе: арганізоўваў паездкі дзяцей за мяжу, курсы для настаўнікаў і г.д.

А.Міхалевіч пляную вылучацца падвойна: зборам подпісаў і рашэньнем Пухавіцкай арганізацыі Партыі БНФ. Збор подпісаў дазваляе мець дадатковы месяц працы з выбаршчыкамі. Рашэньне партыі дае большыя гарантыі, што кандыдат будзе зарэгістраваны.

А.Міхалевіч заснаваў мясцовую прыватную газэту *"Регион"*, якая выдаецца пераважна па-расейску накладам у 1500 асобнікаў. У 35-тысячным горадзе выходзіць таксама дзяржаўная газэта "Пухавіцкія навіны" (наклад 3 тыс. асобнікаў) і прыватная "Павятовая газета" (1500 асобнікаў).

"Шанцы ў мяне дастаткова высокія, — кажа А.Міхалевіч. — Акруга для намэнклятуры правальная. Ужо ёсьць прыклад, калі ўдаўся байкот выбараў у палату прадстаўнікоў — прыйшло толькі 30% выбаршчыкаў. У перамогу абсалютна веру. Калі мне ўдасца абысьці кожную кватэру, я дакладна пераможу. У маёй камандзе вельмі аўтарытэтныя людзі. Што таксама зарука перамогі".

Трэба чакаць, што супраць Міхалевіча мясцовая "вэртыкаль" выставіць моцнага кандыдата. Хутчэй за ўсё, кагосьці з дырэктараў заводаў. Ня выключана, што кандыдатаў будзе некалькі.

### Без палітыкі

У Маладачанскі гарсавет будзе балятавацца 20-гадовы **Ян Лагвіновіч**. Ён — студэнт-завочнік Беларускага дзяржаўнага тэхнічнага ўнівэрсытэту, кіраўнік маладачанскага "Маладога фронту". Працуе лесьніком у мясцовым лягасе.

Лагвіновіч зьбіраецца ісьці на выбары праз збор подпісаў, бо лічыць, што абыход кватэр і непасрэдны кантакт з выбаршчыкамі — гэта "найбольш эфэктыўны мэтад агітацыі". Аднак ён дапускае, што зборам подпісаў уладам вельмі лёгка "выдаліць" кандыдата з гульні. Таму, для падстрахоўкі, Я.Лагвіновіч мяркуе вылучацца і ад партыйнай арганізацыі. У яго ёсьць каманда, якая складаецца зь сяброў "Маладога фронту" і ягоных знаёмых.

Лагвіновіч кажа, што ў сваёй праграме ён робіць акцэнт на маладыя сем'і: працоўную моладзь, прадпрымальнікаў, людзей з вышэйшай адукацыяй. Акруга, па якой Я.Лагвіновіч мяркуе балятавацца, гэта новы раён, які вызначаецца больш высокім узроўнем жыцьця. Ён абяцае вырашыць праблемы гэтага мікрараёну: камунальныя паслугі, транспарт ды інш. Палітычныя лёзунгі ў праграме Лагвіновіча наўрад ці будуць.

Што да сваіх шанцаў на перамогу, то Лагвіновіч бачыць галоўную небясьпеку ў магчымасьці фальсыфікацыі вынікаў выбараў з боку ўладаў. "Досьвед мінулага году, калі падчас прэзыдэнцкай кампаніі даводзілася зьбіраць подпісы, паказвае, што людзі вельмі добра рэагуюць на абыход кватэраў. Супольную мову зь імі можна знайсьці!", — кажа Лагвіновіч.

### Бабруйская "сацыяльнай дамова"

Настаўнік з Бабруйску 30-гадовы **Алесь Чыгір** зьбіраецца балятавацца ў мясцовы гарадзкі савет. Ён працуе настаўнікам гісторыі ў бабруйскай СШ №8. Беспартыйны, сябра грамадзкай ініцыятывы "Свая справа". А.Чыгір адказаў на пытаньні карэспандэнта "НН".

**"НН": Якая ў Вас праграма?**

**А.Ч.:** Пад выбары была падрыхтавана т.зв. "сацыяльная дамова". Мы сабралі інфармацыю пра ўсе гарадзкія праблемы і яе абагульнілі. Са жніўня на гэтую тэму праводзілася анкетаваньне сярод сяброў грамадзкіх арганізацый і жыхароў гораду, была створаная экспэртная група. Яна падрыхтавала тэкст "сацыяльнай дамовы", што складаецца з 11 пунктаў: асьвятленьне гораду, рамонт дарогаў, ахова здароўя, праблемы інвалідаў ды інш. Гэта будзе дамова паміж кандыдатамі ў дэпутаты і жыхарамі гораду. Я буду стартаваць у выбарчай кампаніі, закранаючы толькі сацыяльныя праблемы.

**"НН": Якім чынам будзеце вылучаць сваю кандыдатуру?**

**А.Ч.:** Шляхам збору подпісаў. Гэта самы аптымальны варыянт. У Бабруйску 40 акругаў. У кожнай зь іх 3—4 тысячы выбаршчыкаў. Трэ будзе абысьці кватэры: першы раз, каб сабраць подпісы, другі раз — каб правесьці агітацыю. Я мог бы вылучыцца і ад працоўнага калектыву, але вырашыў ісьці такім шляхам. Ад партыі вылучыцца не магу, бо з 2001 г. я — беспартыйны.

**"НН": Ці маеце Вы каманду?**

**А.Ч.:** Каманда ёсьць. Пераважна гэта сябры грамадзкай ініцыятывы "Свая справа". Наагул, людзей шмат, з многімі я вёў перамовы.

**"НН": Што Вы можаце сказаць пра сваю выбарчую акругу?**

**А.Ч.:** Гэта працоўны раён, шынная камбінату. Тут знаходзіцца школа, дзе я працую.

**"НН": Ці маеце досьвед удзелу ў выбарчых кампаніях?**

**А.Ч.:** Мне падаецца, што маю. Бо пачынаючы з 1999 г. я браў удзел ва ўсіх палітычных кампаніях, ведаю адпаведныя тэхналёгіі.

**"НН": Як ацэньваеце свае шанцы на перамогу?**

**А.Ч.:** Шмат будзе залежаць ад таго, хто яшчэ вылучыцца ў маёй акрузе, наколькі гэта будзе моцны праціўнік. І па-другое, я лічу, што існуе магчымасьць фальсыфікацыяў. Таму свае шанцы ацэньваю 50/50.

**"НН": Што можна сказаць пра перадвыбарчую сытуацыю ў Бабруйску?**

**А.Ч.:** Стан даволі складаны. У нас у апошнія гады партыі спрабавалі стварэць нейкія кааліцыі, але яны ніколі не спрацоўвалі. Цяпер ізноў зьбіраюцца дзяліць акругі. Мне здаецца, што падзяліць іх немагчыма, бо няма ніякага прынцыпу, яны ня могуць вызначыцца, хто "наш" кандыдат, а хто "ня наш". Наша арганізацыя ўзгадняла разьмеркаваньне кандыдатаў па акругах з БНФ "Адраджэньне", Арганізацыяй працоўных жанчын, "Вэтэранамі Адраджэньня", Беларускай асацыяцыяй журналістаў, арганізацыямі сацыяльнай скіраванасьці (напрыклад, інвалідаў). Але гэта было не падпісаньне дамоваў ці стварэньне кааліцыі, а больш прыватныя перамовы. Усе названыя арганізацыі бяруць удзел у кампаніі "сацыяльнай дамовы". На іх аснове можа пасьля паўстаць кааліцыя.

### А хто там ідзе?

Дык хто ж ідзе на выбары ў мясцовыя саветы ад апазыцыі? Паводле папярэдніх зьвестак, вялікую частку кандыдатаў складуць маладыя людзі да 30 гадоў. На сёньняшні дзень моладзь да 30 гадоў у мясцовых саветах складае толькі 5% ад дэпутацкага корпусу.

Пакуль нельга сказаць, колькі кандыдатаў выставяць на выбарах апазыцыйныя сілы. У Менску, напэўна, "накрыюць" усе акругі, але ці будзе пры гэтым станоўчы вынік? У малых гарадах кандыдаты маюць добрыя шанцы перамагчы, калі здолеюць абысьці кватэры выбаршчыкаў ды пакінуць пры гэтым станоўчае ўражаньне аб сабе.

Наўрад ці кандыдаты вераць, што выбары нешта кардынальна зьменяць, але непасрэдныя кантакты з выбаршчыкамі (а не праз газэту ці ўлётку) могуць значна палепшыць у народзе імідж апазыцыйных палітыкаў.

**Алег Тачоны**

## Шляхам Абдзіраловіча

**Аляксандар Лукашэнка ў хуткім часе наведае Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт.**

Як стала вядома "НН", у "галоўнай ВНУ краіны" кіраўнік дзяржавы прачытае лекцыю на тэму "Гістарычны шлях Беларусі". Цяпер галоўнае ідэалягічнае ўпраўленьне Адміністрацыі прэзыдэнта піша тэкст выступу. Выглядае на тое, што А.Лукашэнка імкнецца пацьвердзіць сваё "дзьве вышэйшыя адукацыі": перад студэнтамі БДЭУ ён нядаўна прамаўляў як "эканаміст", у БДУ прыйдзе як "гісторык".

Падчас гэтага візыту можа канчаткова вырашыцца лёс рэктара Белдзяржунівэрсытэту. Як вядома, 6 сьнежня А.Лукашэнка не зацьвердзіў прызначэньня Аляксандра Казуліна прадстаўніком Беларусі ў ААН. Пасьля Пятра Краўчанкі выправіць за мяжу яшчэ аднаго "лібэрал-дыпляматa" А.Лукашэнка не рызыкнуў.

А.Казулін па-ранейшаму ўзначальвае БДУ і чакае... Хоць пасьля філіпікаў А.Лукашэнкі на ягоны адрас наўрад ці рэктару варта чакаць нечага добрага. Пагатоў што ў ягоным унівэрсытэце ўжо год працуе "прэзыдэнцкая праверка".

**А.Ш.**

# Піва "зь беларускасьцю"

**"Беларуская броварная кампанія" хоча варыць піва больш, чым усе беларускія бровары разам.**

**Кіраўніцтва кампаніі** *Detroit-Belarus Brewing Company LLC*, якая разам з ААТ "Дзеднава" намагаецца стварыць пад Бабруйскам ЗАТ "Беларуская броварная кампанія", нездарма вырашыла зладзіць 10 сьнежня прэсавую канфэрэнцыю. Большасьць публікацыяў пра захады інвэстара маюць для яго непрыемны характар. Зь іх вынікае, што кампанія не інвэстуе ў "Дзеднава", а прыбірае бровар да рук.

*Detroit-Belarus Brewing Company LLC*, адгалінаваньню якой належыць расейская кампанія "Піт", плянавала набыць два бровары — адзін у Берасьці, другі ў Дзеднаве. Берасьцейскія ўлады справу "замялі", магілёўскія — наадварот, усяляк спрыяюць інвэстару.

"Дзеднава" мае буйныя запазычанасьці, якія можна падзяліць на тры часткі. Першая — каля 1,5 млрд. рублёў — запазычанасьць перад дзяржбюджэтам ды працаўнікамі. Другая — перад банкамі, у першую чаргу перад Аграпрамбанкам (таксама 1,5 млрд. рублёў). Трэцяя — перад сотняй невялікіх прадпрыемстваў. Многія з тых запазычанасьцяў папросту абсурдныя: напрыклад, за... кілбасу, якую набывалі, каб аддаваць ёю заробкі працаўнікам.



Сяргей Левін, кіраўнік прадстаўніцтва *Detroit-Belarus Brewing Company LLC*, падкрэсьлівае, што ягоная кампанія ня будзе займацца дабрачыннасьцю, але ўсё-такі разьлічыцца за запазычанасьці "Дзеднава". Дзеля гэтага прадугледжаны хітры мэханізм: амэрыканскі інвэстар дае бровару пазыку, якая дазволіць аддаць грошы дзяржбюджэту ды працаўнікам. Гэтак "Дзеднава" застанецца вінаватым ужо не дзяржаве ды працаўнікам, а свайму інвэстару. Цікава, што за згоду гэткім чынам разьлічыцца зь бюджэтам *Detroit-Belarus Brewing Company LLC* ўзяла ў заклад будынак адміністрацыі бровару коштам 3,8 млрд. рублёў.

Запазычанасьць перад банкамі, магчыма, будзе рэструктурызаваная, а перад малымі прадпрыемствамі — аддадзеная за кошт продажу рэшты піва, соладу ды іншае сыравіны, якая засталася на бровары. Сп.Левін не хавае, што "Дзеднава" неўзабаве мусіць "уліцца" ў кампанію, згубіўшы статус акцыянэру, роўнага ў правах з *Detroit-Belarus Brewing Company LLC*. Пры гэтым большасьць шараговых ды тэхнічных супрацоўнікаў застануцца працаваць, а вось "топ-мэнэджмэнт" будзе цалкам новы.

Кіраўніцтва *Detroit-Belarus Brewing Company LLC* адмовіцца ад маркі "Дзеднава" на карысьць новага брэнду, бо лічыць, што рэклямная акцыя "Піва "Дзеднава" — для багатага й для беднага" была праваленая праз дрэнную якасьць піва. Новы брэнд мусіць мець у сабе "беларускасьць", каб нават замежныя (чытай — расейскія, бо новае піва будзе экспартавацца ў першую чаргу ў Расею праз кампанію "Піт") пакупнікі ведалі, што піва зробленае пад Бабруйскам. Яшчэ кампанія пляную падпісаць дамову з буйным замежным броварам (якім — пакуль камэрцыйная таямніца), каб выпускаць піва па ліцэнзіі.

Сыравіну для новага піва плянуюць браць беларускую, дзеля чаго пачнуць вучыць калгасы правільна вырошчваць піўны ячмень, які, на думку кіраўніцтва *Detroit-Belarus Brewing Company LLC*, цалкам вынішчаны ў краіне. Солад будуць браць з Іванаўскай саладоўні (Берасьцейшчына), аднае з найбуйнейшых ва Ўсходняй Эўропе.

С.Левін прызнае, што ў апошнія месяцы перамовы з уладамі, якія да гэтага ішлі шпарка, пачынаюць запавольвацца, зьяўляюцца шматлікія бюракратычныя перашкоды. У найлепшым для амэрыканскай кампаніі варыянце "Беларускую броварную кампанію" зарэгіструюць яшчэ да Новага году. У плянах — вытворчасьць больш як 2 млн. гекталітраў піва штогод. Цяпер столькі выпрацоўваюць усе беларускія бровары разам.

**Алесь Кудрыцкі**

# Мабільны маркетынг

**Дзіўныя рэчы адбываюцца апошнімі тыднямі на рынку мабільнай сувязі: два мясцовыя гіганты, якія спрабуць зьяднаць сваёй сувязьзю ўсю Беларусь, выбралі зусім не характэрную для Беларусі маркетынгавую стратэгію.**

*Velcom* і МТС пільна адсочваюць рэклямную палітыку адно аднаго і робяць хады ў адказ. Імгненнасьць рэакцыі ўражвае.

Чуткі, што МТС пачне браць за хвіліну ўсяго па 30 рублёў — таньней немагчыма — плянамерна перацяклі ў моцную рэклямную кампанію. Цяпер з мабільнікаў МТС тэлефанаваць таньней, чым праз стацыянарны тэлефон між абласьцямі. *Velcom* таксама ня сьпіць у шапку і ўводзіць зьніжкі на 30%. Цяпер першая хвіліна размоваў паміж абанэнтамі гэтага апэратара каштуе 170 рублёў, другая — 119. Уначы яшчэ таньней: першая 80, другая 56.

GSM-кампаніі маюць на мэце завабіць як мага больш кліентаў. Гэта яскрава бачна з рэклямы. МТС падкупляе насельніцтва таннасьцю прадукту і прапануе пераходзіць да іх. *Velcom* выпускае шчымлівую аудыёгісторыю пра хлопчыка, якому трэба вярнуць свой падарунак увесну. З гэтага вынікае, што на сёньня колькасьць беларускіх GSM-абанэнтаў набрала сваю "крытычную масу" і кампаніі мабільнай сувязі найперш спрабуюць іх дзяліць. Адна хоча перацягнуць пэўную колькасьць ужо наяўных абанэнтаў да сябе, а другая — усімі шляхамі захаваць кліентаў. Апэратары менш, чым раней, спадзяюцца на агульнае павелічэньне "мабільных" грамадзянаў у Беларусі, а галоўную ўвагу зьвяртаюць на змаганьне за "падлучаных". Сапраўды, калі ня будзе радыкальных зьменаў у палітыцы кампаніяў (рэзкае зьніжэньне тарыфаў, бясплатныя размовы паміж абанэнтамі аднае кампаніі, пасэкундная тарыфікацыя), рост кліентуры можа замарудзіцца.


IREX-PROMEDIA

**Аляксей Чубат**

### Дамова аб пастаўках газу

**10 сьнежня ў Маскве прэм'еры Расеі і Беларусі падпісалі дамову пра аб'ёмы паставак расейскага газу ў Беларусь налета.** Мы атрымаем 18,5 млрд. м³ прыроднага газу. 10,2 млрд. — па ўнутрырасейскіх цэнах, 8,3 млрд. — па рынкавых.

### "Граніт" акцыянуюць

**Працаўнікі Мікашэвіцкага УП "Граніт" на канфэрэнцыі 6 сьнежня падтрымалі прапанову акцыянаваць сваё прадпрыемства.** З 222 дэлегатаў ад усіх адгалінаваньняў "Граніту" 221 прагаласавае "за". "Граніт" дае 35% падатковых паступленьняў у бюджэт Лунінецкага раёну, ня мае запазычанасьці перад дзяржбюджэтам, сярэдні заробак на прадпрыемстве за кастрычнік склаў 326 тыс. рублёў. Аднак крэдыторам прадпрыемства завінавацілася — вось і вырашылі яго прыватызаваць, спадзеючыся адшукаць замежных інвэстараў.

### 64-е радовішча

**За тры кілямэтры ад Рэчыцы геолягі "Беларуснафты" адшукалі новае радовішча гэткае неабходнае нам сыравіны.** Сьвідравіну глыбінёй 4300 мэтраў бурылі 8 месяцаў. Цяпер радовішча выдае да 200 м³ нафты штодня, і ягоных запасаў павінна хапіць на 20 гадоў. Цяпер у Беларусі 64 разьведаных радовішчы нафты.

### "Слаўнафту" збылі

**6 сьнежня Беларусь прадала свой пакет акцыяў нафтавай кампаніі "Слаўнафта".** Купіў іх "Слаўнафтабанк", які прадстаўляе інтарэсы расейскай "Сібнафты" ды яе ўладальніка губэрнатара Чукоткі алігарха Рамана Абрамовіча. Агульная сума зьдзелкі склала 207 даляраў. Гэта яшчэ меней за тую суму, якую "Слаўнафтабанк" прапаноўваў на пачатку таргоў (210 млн. даляраў). Але ва ўрадзе гешэфт лічаць удалым, бо раней Беларусь атрымлівала з акцыяў "Слаўнафты" 3,5 млн. даляраў дывідэндаў у год — мауляў, краіна атрымала дывідэнды на 60 гадоў наперад.


Шчасьліўчык Раман Абрамовіч

# Эстонія мяняе каровы на рысяў

**Эўразьвяз працягвае таргавацца з краінамі-кандыдаткамі наконт прэфэрэнцый і квотаў пасьля іх будучага ўступленьня.**

У панядзелак бунт нечакана паднялі эстонцы, якія раней, у адрозьненьне ад палякаў і чэхаў, асаблівых патрабаваньняў не выстаўлялі. На мінулым тыдні прадстаўнікі ЭЗ і Эстоніі, здавалася, шчасьліва дамовіліся пра часовыя пераходныя абмежаваньні на лоўлю селядцоў у эстонскіх водах, паніжаны ПДВ і 5-гадовы часовы дазвол на паляваньне на рысяў. ЭЗ не пагадзіўся хіба толькі на захаваньне ранейшага дазволу паляваць на мядзьведзяў.

Эстонцаў, аднак, зачапіла, што Данія, якая старшыние ў Эўразьвязе, зрэзала датацыі для Эстоніі (яны належацца ўсім новаўступоўцам), аргумэнтуючы гэта добрым эканамічным станам балтыйскай краіны. У адказ міністарка замежных справаў Эстоніі спн.Оюланд адмовілася ад ранейшага пагадненьня. Эстонію не задавальняе заніжаная, на думку Таліну, квота на вытворчасьць малака, і яна патрабуе павялічыць гэтую квоту да 900 тыс. літраў. Датчане прапанавалі Таліну 647 тыс. і меркавалі, што ён гэтым задаволіцца.

Тады дацкія прадстаўнікі таксама пайшлі на прынцып. Яны адмовіліся задаволіць эстонскія патрабаваньні. Больш за тое, дацкая прэса намякае, што ўсе ранейшыя саступкі Эстоніі (селядцы, рысі і г.д) трапляюць пад пытаньне. Кансультацыі бакоў працягваюцца.

На мінулым тыдні Эстонія праявіла прынцыповасьць і ў іншым пытаньні. Яна запрасіла ў краіну спэцыяльную камісію ЭЗ, якая ацэніць шкоду, нанесеную 50-гадовай савецкай акупацыяй. Камісія вызначыць суму кампэнсацыі, якую Эстонія хоча запатрабаваць ад Расеі. Першай такую кампэнсацыю запатрабавала колькі гадоў таму Літва, што прывяло да пагаршэньня стасункаў між Вільняй і Масквой.

**Франц Субель**

**Першы сэндвіч, калі верыць амэрыканскаму фальклёру, згатаваў сабе міталягічны асілак-дрывасек Поль Баньян. Маці дала яму ў лес лусту — булкі ды добры кавалак мяса. Поль заглядзеўся на прыгажуноў-ласёў ды сам не заўважыў, як сеў на кайстру й расьціснуў ссабойку ў блін. Нічога іншага не засталося, як укласьці мяса між булак ды гэтак спажыць. Гісторыя "Макдональдзу" пачалася ў 1940 г. у Каліфорніі, калі браты Макдональды адчынілі невялічкую рэстарацыю каля шашы, каб абслугоўваць тых, хто жадае хуценька падсілкавацца. Славуты сэндвіч бігмак зьявіўся ў 1968 г. У 1972 г. пачаўся сапраўдны бум: у сьвеце штодня адчыняўся новы "Макдональдз". 30 тыс. рэстарацыяў абслугоўваюць штодзённа 46 млн. чалавек у 121 краіне. Больш за ўсё "Макдональдзаў" у Амэрыцы — 13 тыс., у Эўропе іх 5800.**


АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

# Хутка вам есьці

*Шэсьць гадоў таму ў Беларусі зьявіўся першы "Макдональдз"*

### Кормяць расейскім

У нашай краіне "Макдональдз" зьявіўся 10 сьнежня 1996 г. Тады адчынілі тры рэстарацыі — на праспэкце Скарыны, ля плошчы Бангалор ды на скрыжаваньні праспэкту Дзяржынскага й вуліцы Голубева. Сёньня іх ужо шэсьць. Новыя рэстарацыі зьявіліся на плошчы Прытыцкага, ля вакзалу ды на Нямізе. Самая вялікая — на праспэкце Скарыны каля ГУМу. Яна разьлічаная на 245 месцаў. Праўда, рэстарацыю каля вакзалу закансэрвавалі сама меней на два гады праз тое, што БДУ будуе побач новы 12-павярховы корпус факультэту міжнародных зносінаў. Штодня ў "Макдональдзе" ядуць 25 тыс. беларусаў. Вядома, праверыць гэтую інфармацыю магчымасьці няма.

На адкрыцьцё кожнай рэстарацыі ідзе 1,2 млн. даляраў, а ўвогуле за шэсьць год працы ў краіне "Макдональдз" уклаў у справу ўжо 14 млн. даляраў. На дабрачыннасьць беларускі "Макдональдз" выдаткаваў каля мільёна даляраў.

У шасьці менскіх фаст-фудах працуюць 860 чалавек: 790 — абслугоўваюць, 45 — мэнэджэры і асыстэнты мэнэджэраў, 25 — адміністратары. Апошніх школяць у замежных "Макдональдзах", у першую чаргу ў Маскве, Варшаве ды Празе.

Абслуга амэрыканскай кампаніі "Макдональдз" у Беларусі гаворыць толькі па-расейску і толькі па-расейску адгукаецца на беларускую мову кліентаў, чым прыўносіць у справу русіфікацыі і этнацыду індустрыйны пачатак.

Беларускі "Макдональдз" робіць свае стравы ў асноўным з прывазных прадуктаў: 70% паўфабрыкатаў прыходзіць з "Маккомплексу" — харчова-перапрацоўчага цэнтру ў Маскве, які набывае сыравіну ў расейскіх вытворцаў. 18% сыравіны даюць беларускія кампаніі. Гэта соль, цукар, вяршкі, кава, гарбата, сурвэткі й папяровая прадукцыя, аднаразовы посуд, сродкі для мыцьця, уніформа, абутак ды напоі ад "Кока-Колы".

"Макдональдз" закупляў бы й болей айчынных прадуктаў, але дзеля гэтага замала мець 6 рэстарацыяў на краіну. Так, "айчынныя" малочныя express кактэйлі акупяцца толькі тады, калі рэстарацыяў будзе ня меней за 20.


АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

### Бігмак як індыкатар

Ёсьць зручны спосаб вызначыць, наколькі дорага жыць у той ці іншай краіне: дастаткова параўнаць цэны на бігмак. У ЗША ён каштуе 2,44 даляра, у "эўразоне" — 2,64 даляра. У нас — 2450 руб., гэта прыкладна 1,3 даляра. У Беларусі праца ў "Макдональдзе" лічыцца добрым варыянтам, асабліва для студэнта: стабільны заробак, акуратная ўніформа, кар'ерныя пэрспэктывы. Але гэта цяжкі хлеб: поўны працоўны дзень, а плацяць каля тысячы рублёў за гадзіну працы (афіцыйна — 1200, але насамрэч выходзіць меней). У Амэрыцы працаўнік ніжэйшага зьвяна атрымлівае ў "Макдональдзе" мала — каля 6 даляраў за гадзіну (паводле закону, нельга плаціць менш за 5,15 даляра). Калі параўнаць заробкі супрацоўнікаў кампаніі ў адносінах да даляра, выходзіць, што амэрыканцы за гадзіну зарабляюць амаль на два з паловаю сэндвічы, а нашым ня хопіць і на палову.

### Стратэгія заробкаў і цэнаў

Раней фаст-фуды сьвядома імкнуліся трымаць заробкі нізкімі. Апроч эканоміі гэта давала высокую "бягучасьць кадраў": багата хто хутка губляў жаданьне напружана працаваць за малыя грошы. Заходнім працаўцам гэта выгадна: можна эканоміць на поўных сацыяльных адлічэньнях, якія кампаніі мусяць рабіць за сталых працаўнікоў. У 1994 г. брытанскі суд нават прызнаў "Макдональдз" адказным за наўмыснае заніжэньне заробкаў, што выклікала іх агульнае зьмяншэньне ў сфэры грамадзкага харчаваньня. Але цяпер тактыка мяняецца, бо маладых працаўнікоў на Захадзе не стае, дый навучаньне каштуе шмат. Фаст-фуды нават пачалі прапаноўваць супрацоўнікам сацыяльныя выгоды. У Амэрыцы, напрыклад, — мэдычную страхоўку (улучна са страхоўкай на лячэньне зубоў) ды харчаваньне ў рэстарацыі са зьніжкай.

### Супраць

"Макдональдз" любяць ня ўсе. Многія дактары кажуць, што тамтэйшае харчаваньне шкоднае для здароўя. Недагатаваныя стравы з "Макдональдзу" зрабіліся ў 1982 г. у ЗША ды ў 1991 г. у Ангельшчыне прычынай атручаньня дзясяткаў наведнікаў фаст-фуду. "Грынпіс" вінавaціць кампанію ў тым, што яна шкодзіць навакольлю (так, у 70-я "Макдональдз" у Коста-Рыцы прызнаў, што закупляў мяса кароваў, якіх пасьвілі там, дзе раней былі па-барбарску зьнішчаныя трапічныя лясы). "Макдональдз" быў замяшаны ва Ўотэргейцкі скандал: ён выдаткаваў Рычарду Ніксану 250 тыс. даляраў на прэзыдэнцкую кампанію, наўзамен дамагаючыся адмены падвышэньня мінімальнага заробку.

"Макдональдз", у сваю чаргу, ня любіць прафсаюзаў — у 1974 г. у Сан-Францыска кампанія выкарыстоўвала дэтэктары маны, каб даведацца пра прафсаюзныя сымпатыі працаўнікоў. А ў 1980 г. Джэфры Джуліяна, выканаўца ролі блазна Рональда Макдональда, рэклямнага пэрсанажа кампаніі, зволіўся з працы са словамі: "Я прашу прабачэньня ў дзяцей сьвету за тое, што прадаўся канцэрну, які зарабляе мільёны, забіваючы жывёлаў".

Найноўшы скандал — судовая справа супраць "Макдональдзу", якую распачалі восем дзяцей зь Нью-Ёрку. Яны вінавацяць кампанію ў тым, што яна не патлумачыла, што сыстэматычнае спажываньне сэндвічаў ды чыпсаў вядзе да атлусьценьня й дыябэту. Так, Грэгары Раймз, які з шасьці гадоў амаль штодня харчаваўся ў "Макдональдзе", важыць 181 кг ды пакутуе на дыябэт.

**"Макдональдз" вінавацяць ў тым, што ён шкодзіць навакольлю, а ягоная ежа шкодная для здароўя.**

### Галоўныя канкурэнты

Галоўны канкурэнт "Макдональдзу" — кампанія "*Burger King*" са сваімі 11 тыс. рэстарацыяў ды сэндвічам *Whopper*, аналягам бігмаку. Крыху іншы кірунак маюць кампаніі "*Yum*", што валодае фаст-фудавымі сеткамі *KFC* (стравы са смажанага куранячага мяса), "*Pizza Hut*" (разнастайныя піцы) ды "*Taco Bell*" (стравы мэксыканскае кухні). Разам гэтыя тры гіганты фаст-фуд-індустрыі маюць 60 тыс. рэстарацыяў, у якіх працуюць 3,7 млн. чалавек. Досыць папулярныя таксама фаст-фуды "*Subway*" (спэцыялізуецца на доўгіх, сантымэтраў па трыццаць, сэндвічах з шынкай) ды "*Dunkin' Donuts*" (прадаюць салодкія пончыкі). Сярод эўрапейскіх фаст-фудаў варта назваць нямецкую кампанію "*Nordsee*", якая прапануе сэндвічы з рыбай.

### Цалкам наш фаст-фуд

Нашумелая рэстарацыя "Хуткае харчаваньне" на праспэкце Машэрава ў Менску, якая нагадвала фаст-фуд, ціха сканала, так і ня даўшы пачатку новай сетцы рэстарацыяў з нацыянальнымі стравамі. Але апрача "Макдональдзу" ў Менску працуюць ТАА "Экспрэс-сэрвіс" ды кампанія "Эбэрт-нарпіт". Найбліжэй да статусу фаст-фудавае сеткі набліжаюцца "Экспрэс-сэрвіс". Год таму ён меў 45 шапікаў "Хутка, смачна", якія штодня прадавалі 40 тыс. гот-догаў, прычым "Экспрэс-сэрвіс" не закупляе прадуктаў, а мае ўласную вытворчасьць. Гот-догі ад "Экспрэс-сэрвісу" застаюцца самымі таннымі — 710—730 рублёў. Гэтая кампанія вынайшла таксама гэткія стравы, як "гот-дог вясковы" з традыцыйнай беларускай кілбаскай (1270 р.) ды "піца беларуская" (670 р.). Але сёлета 15 студзеня Менгарвыканкам прыняў пастанову "Пра ўпладкаваньне разьмяшчэньня і функцыянаваньня раздробнага гандлю на тэрыторыі гораду Менску" ды прымусіў прыбраць 23 шапікі. Давялося звольніць 300 супрацоўнікаў, продажы ўпалі да 5 тыс. гот-догаў у дзень.

Нямецка-беларуская кампанія "Эбэрт-нарпіт" пачала ставіць кіёскі з надпісам "Хутка, смачна, па-беларуску" ў 1992 г. У Менску іх 11. Тут большы выбар гот-догаў, але й цэны большыя (750—1385 рублёў). Прадаюць там і іншыя стравы, найбольш папулярная зь іх — кебаб (1270 рублёў).

Цэны ў фаст-фудавых шапіках меншыя, чым у "Макдональдзе", — там сэндвіч каштуе 2,5 тыс. рублёў (праўда, нядаўна распачалася новая акцыя: гамбургер за 1000 рублёў і чызбургер за 1100 рублёў). Даводзіцца, аднак, выбіраць: апчаджаць грошы ды есьці стоячы на вуліцы ці плаціць болей, але сядзець за столікам у цяпле. А кіроўцы, якія жадаюць пад'есьці, не выходзячы з аўто, увогуле пазбаўленыя выбару: сыстэма *Drive-in* ёсьць толькі ў "Макдональдзе".

**Алесь Кудрыцкі**

# Уніформа без кішэняў

**"Прывітаньне, маленькі! Мы, стваральнікі гэтага сайту, браты Грыль, людзі дасьведчаныя, што прайшлі школу выжываньня пад назвай "сетка рэстарацыяў Макдональдз—Беларусь", радыя вітаць цябе". Гэтак пачынаецца галоўная старонка "неафіцыйнага" сайту беларускага Макдональдзу http://belmac.narod.ru, на якім мала добрага можна прачытаць пра сыстэму хуткага харчаваньня. Наш суразмоўца — спадар *Cook*, адзін з стваральнікаў гэтага рэсурсу.**

**"НН": Чаму хаваецеся пад псэўданімам?**

***Cook*:** Ня ведаю, як кіраўніцтва кампаніі адрэагуе на тое, што я, які сумленна адпрацаваў у сыстэме рэстарацыяў каля году, — аўтар гэтага сайту.

**"НН": Як трапіць на працу ў "Макдональдз"?**

***Cook*:** Па-першае, бязь менскай прапіскі на працу не бяруць. Кожны, хто жадае ўладкавацца, прыносіць у любую рэстарацыю (найчасьцей у тую, ля якой жыве) анкету. У ёй трэба пазначыць зьвесткі пра сябе ды пажаданы час працы. Апошняе — самае істотнае. Калі напішаце, што ваш час абмежаваны, скажам, чатырма гадзінамі ў дзень, вас ніхто ня возьме. Лепей напісаць штосьці кшталту "ад 7-й да 23-й". Аднак трэба ўлічваць, што свой графік можна будзе зьмяніць толькі праз тры месяцы пасьля пачатку працы. Калі ў рэстаране зьяўляецца вольная пазыцыя (вакансіі ёсьць цэлы год, ды яшчэ й на пачатку лета робіць дадатковы набор), супрацоўнік Аддзелу людзкіх рэсурсаў адбірэ анкеты ды пакажа іх дырэктару, каб той ухваліў. Потым усіх, каго "адабралі", запрашаюць на першае інтэрвію. Пасьля яго — зноў адбор і другое інтэрвію. Калі ты на яго трапіў, лічы — ужо працуеш у "Макдональдзе". Дарэчы, падчас гутаркі лепш казаць "Макдоналдз", а не "Макдональдз", бо гэта падабаецца кіраўніцтву.

**"НН": У Менску шэсьць рэстарацыяў "Макдональдз". Ці можна пераводзіцца з адной у другую?**

***Cook*:** Так. Трэба толькі падаць заяву дырэктару той рэстарацыі, у якую жадаеце перавесьціся. Або здараецца, што ў нейкай рэстарацыі не хапае супрацоўнікаў, і вас могуць часова накіраваць туды. Яшчэ вас імгненна леравядуць у іншае месца, калі заўважаць, што вы "круціце раман" з кімсьці з сваёй рэстарацыі.

**"НН": Якім чынам налічваюць ца заробкі?**

***Cook*:** У кожнай рэстарацыі ёсьць адмысловы гадзіньнік для ўліку працоўнага часу. Кожны супрацоўнік мусіць мець асабовую магнітную хранакарту. На пачатку ды пры канцы працоўнага дня трэба "прабівацца" — адзначацца ля хранометра з дапамогай той карты. Некаторыя хітруюць, "прабіваючыся" пазьней ці аддаючы картку сябрам, што працуюць у іншую зьмену. Праўда, гэта строга караецца.

**"НН": Ці прадугледжаны які адпачынак у часе працоўнага дня?**

***Cook*:** Калі зьмена доўгая (больш за пяць з паловай гадзінаў), супрацоўніку даецца аплатны перапынак. Але, бывала, даводзілася працаваць па дзесяць гадзінаў, а два перапынкі па 15 хвілінаў давалі толькі пасьля зьмены дзеля вялікага напłыву наведнікаў. Супрацоўнікі мусілі сядзець ва ўніформе, чакаючы, калі пройдуць паўгадзіны перапынку й можна будзе "прабіцца".

**"НН": Якая іерархія існуе сярод супрацоўнікаў рэстарацыі?**

***Cook*:** Той, хто наймаецца, лічыцца працаўніком пачатковага ўзроўню. Гэткіх большасьць, амаль усе яны — менскія студэнты. Потым ідзе інструктар, сьвінг-мэнэджэр, мэнэджэр. Інструктары — у маленькай рэстарацыі, кшталту той, што на Нямізе, іх 6—8 чалавек на 50—70 "пачаткоўцаў" — большай часткай таксама студэнты, якія атрымалі падвышэньне й цяпер вучаць ды кантралююць малодшых супрацоўнікаў. Сьвінг-мэнэджэраў меней — 3—4 чалавекі ў малой рэстарацыі. Над імі стаіць мэнэджэр (дырэктар рэстарацыі) са сваімі асыстэнтамі. Акрамя непасрэднага кіраваньня супрацоўнікамі на мэнэджэрах вісіць безьліч абавязкаў — ад улагоджваньня спрэчак з наведнікамі да складаньня справаздачаў аб працы рэстарацыі.

**"НН": Як адрозьніць супрацоўнікаў рознага ўзроўню?**

***Cook*:** Па вопратцы. Нізавое зьвяно носіць зялёную ўніформу, інструктары — чырвоную, сьвінг-мэнэджэры — белыя кашулі, першы асыстэнт мэнэджэра — блакітную.

**"НН": Ці хутка адбываецца ўздым па службовай лесьвіцы?**

***Cook*:** Прасунуцца ўгару бяз блату амаль немагчыма! Ад "крушніка" да інструктара — гэта яшчэ можа быць, але далей... Асабліва раздражняюць "скарасьпелкі", што яшчэ пару месяцаў таму бяляліся наведнікаў, а цяпер ужо гарлаюць, каб ты хутчэй рухаўся.

**"НН": Наведнікі "Макдональдзу" бачаць толькі залю. Якія яшчэ памяшканьні ёсьць у рэстарацыі?**

***Cook*:** Кухня, офіс ды пакой для адпачынку супрацоўнікаў. Яшчэ так званы сток, дзе захоўваюцца цацкі ды прадукты, якія можна трымаць пры пакаёвай тэмпэратуры, лядоўня ды маразільнік, розныя падсобныя памяшканьні, дзе трымаюць хімікаты ды сродкі для мыцьця.

**"НН": Ці прадугледжвае "Макдональдз" у Беларусі дадатковыя выгоды для супрацоўнікаў?**

***Cook*:** Хіба толькі харчаваньне за 50% у працоўны час ды бясплатныя напоі. Зьядаць усё можна толькі ў рэстарацыі — дадому браць нічога нельга. Калі рэстарацыя зачыняецца, усе прадукты, ня выкарыстаныя за дзень, сьпісваюць ды адпраўляюць у кампактар —, прыстасаваньне для ўтылізацыі. Супрацоўнікі ня маюць права зьядаць ці выносіць тыя прадукты з рэстарацыі. Але трымаюцца гэтага правіла ня ўсе.

**"НН": Ці праўда, што ўніформа супрацоўнікаў ня мае кішэняў?**

***Cook*:** У маёй былі аграмадныя кішэні, але цяпер навічкам сапраўды выдаюць апранахі без кішэняў. Зладзеяў баяцца. Увогуле, за выглядам супрацоўнікаў і асабліва супрацоўніц сочаць строга. Абутак мусіць быць вычышчаны, аніякіх пярсьцёнкаў, завушніцы — толькі маленькія ды без камянёў, мінімум касмэтыкі. Уніформу выдаюць бясплатна, набываць даводзіцца толькі абутак. Калі вы згубіце ці сапсуеце ўніформу, першы раз новы камплект дадуць за так.

**"НН": Ці ёсьць нейкія хітрыкі, зь якіх можа скарыстацца наведнік рэстарацыі?**

***Cook*:** Калі вы выпадкова ўпусьцілі тацу з замовай на падлогу, маеце права патрабаваць, каб яе бясплатна аднавілі. Можна таксама сядзець у рэстарацыі пасьля афіцыйнага закрыцьця, бо ёсьць унутранае ўказаньне: "рэстарацыя працуе да апошняга наведніка". Галоўнае, каб у яго на стале быў прадукт кампаніі. Але злоўжываць тымі прывілеямі ня варта: пакутуем з-за гэтага ў першую чаргу мы, шараговыя супрацоўнікі.

**Гутарыў Алесь Кудрыцкі**


IREX-PROMEDIA

Многіх наведвальнікаў "Макдональдзу" палохаюць высокія цэны.


IREX-PROMEDIA

# Хутка, смачна,

**"Макдональдз" чарговы раз апынуўся ў судзе. Група амэрыканцаў зьвінавачіла кампанію ў атлусьценьні іхніх дзяцей. Працэс цягнецца некалькі тыдняў. Ніколі раней бацькам не ўдавалася спагнаць грошы з сусьветна вядомага прадаўца бургераў. Адвакаты карпарацыі і цяпер сьцьвярджаюць, што абвінавачаньне беспадстаўнае.**

Гамбургер, бульба-фры, газаваныя напоі... Клясычнае мэню, якое зрабіла "Макдональдз" знакамітым, цяпер выклікае крытыку ва ўсім сьвеце. Эпідэмія атлусьценьня стала прычынай, па якой людзі раптоўна зьвярнулі ўвагу на сваё харчаваньне. Як вынік, першыя камяні паляцелі менавіта ў фаст-фуд. Менавіта там, як высьветлілася, аматары пад'есьці спажываюць лішак калёрыяў і набіраюць вагу.

Усё часьцей ахвяры спрабуюць атрымаць кампэнсацыі за сапсаванае здароўе. Але фаст-фуд выявіўся нашмат мацнейшым за вытворцаў тытуню, што рэгулярна сплачваюць велізарныя адшкадаваньні.

Кампаніі не хаваюць, што ў стравах іхных рэстарацыяў тлушчу значна больш, чым трэба чалавеку ў дзень: пра склад купленых гамбургераў можна даведацца проста ля касы. Таму абвінаваціць кампаніі хуткага харчаваньня ў дэзінфармацыі нельга.

І "Макдональдз", і які-небудзь "Quick" выдаткавалі мільёны даляраў на стварэньне пэўнага смаку сваёй ежы, таму зьмена рацыёну азначала б цяпер прызнаньне: "Тое, што мы прадавалі дзесяцігодзьдзямі, магчыма, ня вельмі карыснае для здароўя". На такое,

# Ахвяры смажанага пеўня

Лаюць фаст-фуд усе, і ўсе ім карыстаюцца, нават тыя, хто прынцыпова ня есьць усіх гэтых бігмакаў ды гот-догаў. Пяльмені гатовыя час ад часу любая гаспадыня купляе, сасіскі таксама. Дык якая розьніца, дзе гэтыя сасіскі разагрэтыя — дома на патэльні ці ў кіёску на жароўні? Для спажыўца галоўнае — хутка перахапіць чаго, ды каб прадукт быў якасны. І буйныя сеткі хуткага харчаваньня, як правіла, якасьць забясьпечваюць. А ўсё астатняе — гэта пытаньне культуры харчаваньня. Як нельга езьдзіць толькі на аўтамабілі і зусім не хадзіць пешкі, так гамбургеры ня варта есьці тры разы на дзень.

Некалькі месяцаў таму біяхімікі са Стакгольмскага ўнівэрсытэту выступілі з сэнсацыйным паведамленьнем: у самых папулярных прадуктах фаст-фуду — гамбургерах, бульбяных чыпсах і бульбе-фры — выяўлены канцэраген акрылямід. Прычым у колькасьцях, што ў сотні разоў перавышаюць гранічна дапушчальную канцэнтрацыю (ГДК). Мэнэджэры кампаній, што валодаюць сеткамі хуткага харчаваньня, і прадстаўнікі Швэдзкага нацыянальнага харчовага ўпраўленьня, у якіх журналісты спрабавалі атрымаць камэнтары да заявы біяхімікаў, толькі разгублена мармыталі нешта накшталт “мы атрымалі новую інфармацыю і цяпер ацэньваем сытуацыю” і “атрыманыя зьвесткі недастаткова вычарпальныя, каб на іх падставе забараніць продаж названых прадуктаў”.

## Акрылямід у вадзе

Бедным чыноўнікам і кіраўнікам было ад чаго разгубіцца. ГДК, зь якой параўноўваліся жудасныя лічбы, вызначана Сусьветнай арганізацыяй аховы здароўя для *пітной вады*. Патлумачым: акрылямід утвараецца пры моцным награваньні харчовых прадуктаў, у якіх утрымліваецца крухмал. Па сутнасьці, на швэдзкіх харчавікоў усклалі адказнасьць за тое, што прадуктаў тэрмічнай мадыфікацыі крухмалу ў смажанай бульбе ўтрымліваецца значна больш, чым у чыстай вадзе!

Калі справа толькі ў награваньні крухмалу, дык звычайная смажаная бульба, рысавая запяканка, тосты і хатняя выпечка таксама павінны ўтрымліваць шкодны акрылямід? Такое пытаньне было зададзена аўтарам дасьледаваньня. І тут жа высьветлілася, што вучоным проста не прыйшло да галавы праверыць “смачную і здаровую” хатнюю ежу. Пра нейкія параўнальныя дасьледаваньні аб рэальным уплыве на арганізм сыстэматычнага харчаваньня “канцэрагеннымі” прадуктамі, зразумелая рэч, не было і гаворкі.

Уявім сабе, што швэды сапраўды выявілі акрылямід ня ў гамбургерах і чыпсах, а ў хатніх блінах і піражках (дзе ён пазьней напраўду быў знойдзены). Можна не сумнявацца, якой была б рэакцыя грамадзтва: “Гэтых вучоных паслухаць, дык увогуле ўсё шкодна!”, “Дзяды-прадзеды елі і былі здаравейшыя за нас!” Паведамленьні пра шкоднасьць традыцыйных, хатніх, а тым больш культурна значных прадуктаў заўсёды натыкаюцца на недавер і пратэст. Хто з нас згодзіцца лічыць небясьпечным, напрыклад, шашлык — уласнаручна замарынаваны і падсмажаны, “з дымком”? Між тым, у гэтым самым “дымку” (які падчас прыгатаваньня шашлыка ўдыхаюць літрамі) утрымліваецца доўгі шлейф такіх канцэрагенаў, у параўнаньні зь якімі акрылямід бясшкодны, як матчына малако. А вось з фаст-фудам усё наадварот: нэгатыўныя зьвесткі прымаюцца ледзьве не з задавальненьнем, а заявы пра поўную бясшкоднасьць і бясьпеку могуць пераканаць публіку хіба ў тым, што дасьледаваньне было замоўлена вытворцамі тэставанага прадукту.




IREX-PROMEDIA

**Адкрыцьцё рэстарану "Макдональдз" на Нямізе выклікала незвычайны ажыятаж у менчукоў.**

## Фаст-фуд-фобія

Прычынаў такой дыскрымінацыі некалькі. Харчовы кансэрватызм, насьцярожанасьць у дачыненьні да новай ежы наагул уласьцівыя чалавеку — зрэшты, як і цікаўнасьць, што прымушае-такі пакаштаваць небясьпечную страву. Звычайна жарсьці віруюць вакол прадуктаў, якія *робяцца* масавымі — у той момант, калі ўсе ўжо ведаюць пра іх існаваньне, але для многіх яны яшчэ нязвыклыя.

Другая “віна” фаст-фуду зьвязана зь ягонай галоўнай перавагай — прамысловай тэхналёгіяй вытворчасьці. Ня бачачы ні зыходнай сыравіны, ні працэсу яе прыгатаваньня, спажывец заўсёды схільны падазраваць, што “туды нешта дадаюць”. Дагэтуль у рознага роду “кутках спажыўца” раз-пораз прачытаеш штонебудзь пра “шкодныя дабаўкі, абазначаныя індэксам Е”. (У сапраўднасьці гэты індэкс атрымліваюць рэчывы, *дазволеныя* для выкарыстаньня ў харчовай прамысловасьці; увесь галас зьвязаны з тым, што з амаль тысячы рэчываў, якія атрымалі такі індэкс, тры былі пазьней прызнаныя недастаткова бясьпечнымі і забароненыя.) Гэтыя страхі — адлюстраваньне псыхалягічнага дыскамфорту спажыўца, які трапляе ў залежнасьць ад невядомых яму рашэньняў незнаёмых людзей. У іх няма нічога спэцыфічна кулінарнага — тую самую прыроду мае страх многіх асоб перад апэрацыямі пад агульным наркозам, палётамі на самалётах ці купляй-продажам зямлі.

Да гэтых прычын можна дадаць і чыста палітычныя: фастфуд і асабліва такія раскручаныя і распаўсюджаныя па ўсім сьвеце маркі, як “Макдональдз” ці *KFC*, зрабіліся сымбалямі пэўнага тыпу грамадзтва і ладу жыцьця. Прычым сымбалямі нагляднымі, зручнымі і для палітычнай рыторыкі, і для рознага роду акцый. Сапраўды, што можа лепш праілюстраваць тэзыс пра зласлівыя транснацыянальныя карпарацыі, якія пранікаюць на ўсе кантынэнты і зьнішчаюць нацыянальную самабытнасьць, чым сетка абсалютна стандартных установаў, што прапануюць абсалютна аднолькавую прадукцыю? Зразумела, што ў прапагандзе самых розных антылібэральных сіл — ад левакоў і радыкальных экалягістаў да рэлігійных фундамэнталістаў — “Макдональдзу” адводзіцца надзвычай ганаровае месца. І любы прыхільнік гэтых поглядаў з задавальненьнем раскажа вам, якая шкодная і небясьпечная ежа, што там прапануецца.

## Усё пад кантролем

А наколькі яна на самай справе шкодная і небясьпечная?

“Небясьпека”, гэта значыць магчымасьць атруціцца, падчапіць інфэкцыю ці ўвогуле зьесьці нешта, чаго ў ежы быць не павінна, у такіх установах, як “Макдональдз”, бадай, меншая, чым дзе б там ні было. Такія фірмы памятаюць, што яны заўсёды пад пільнай увагай і што парушэньне, выяўленае ў адным месцы, ударыць па ўсёй сусьветнай сетцы. Нярэдка іх унутраныя стандарты бясьпекі значна вышэйшыя за стандарты той краіны, дзе яны працуюць. Абсалютных гарантый тут быць ня можа: бываюць непрадбачаныя абставіны, накшталт той жа здольнасьці крухмалу ўтвараць у часе награваньня акрылямід (канцэрагеннасьць якога, зрэшты, ацэньваецца анколягамі ўсяго толькі як “магчымая”, г.зн. строга не даказаная і, ва ўсякім разе, адносна невялікая). Але ўсё ж спажыўцы прадукцыі сетак буйных і вядомых кампаній і фірмаў у найбольшай ступені абароненыя ад непрыемных сюрпрызаў.

Са шкоднасьцю пытаньне больш складанае. Пераважная большасьць страў фаст-фуду — гэта сухамятка, часьцяком тлустая і вострая, багатая на вугляводы, бедная на вітаміны і клятчатку. Па сутнасьці, гэта сухі паёк, які насычае хутка і без турбот, але малапрыдатны як мадэль штодзённага рацыянальнага харчаваньня. У найлепшым выпадку ўдаецца пераадолець асобныя зь пералічаных заган: так, заварная лапша ўключае гарачую вадкасьць, бігмак і шаурма — сьвежую гародніну. Але страва ўсё адно застаецца далёкай ад мэдычнага ідэалу.

Аднак у рэальнасьці найбольш частая альтэрнатыва гот-догу ці гамбургеру — не прадуманыя спалучэньні з трох-чатырох нясьпешна спажытых рознатыповых страваў, а прыхоплены з дому бутэрброд ці халодная катлета. Альбо булачка з гарбатай ці сасіска ў буфэце. Альбо пусты страўнік цягам усяго працоўнага дня і ўдарная вячэра бліжэй да ночы. Наўрад ці які-небудзь больш-менш каліфікаваны спэцыяліст па харчаваньні прызнае любы з гэтых варыянтаў менш шкодным за фаст-фуд.

**Паводле *“Еженедельного журнала”***




АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

# штучна

вядома, ніхто не пагодзіцца.

Сталае харчаваньне хапком можа выклікаць ня толькі атлусьценьне, але й іншыя хваробы, зьвязаныя зь ім, — дыябэт і сардэчную недастатковасьць. Але кампаніі адмаўляюцца несьці адказнасьць за сьвядомы выбар наведнікаў. “Ніхто ня можа сказаць, што гамбургеры выклікаюць залежнасьць. Яны могуць быць смачныя, і людзі сапраўды могуць зьядаць іх шмат. Але адсутнасьць волі ў чалавека — ужо ня нашая праблема”, — кажуць прадстаўнікі карпарацыяў.

У Беларусі атлусьценьне пакуль не разглядаецца як значная праблема. Мы не разбэшчаныя разнастайнымі прапановамі ад рэстарацыяў фаст-фуду, а стварэньне нацыянальнай сеткі хуткага харчаваньня — усё яшчэ ў праектнай стадыі. З буйных замежных інвэстараў у гэтай галіне — адзін славуты “Макдональдз”, а месцы, дзе ёсьць магчымасьць хутка й танна падсілкавацца, можна пералічыць па пальцах. Таму й заплюшчвае большасьць беларусаў вочы на шкоду булачак з катлетай і штучных дэсэртаў. Чэргі па іх зьнікаюць толькі бліжэй да закрыцьця рэстарацыяў, а ў час сьвятаў супрацоўнікі ня маюць нават адной вольнай хвіліны. Калі ж хуткае харчаваньне нарэшце прыйдзе ў рэгіёны, сытуацыя там будзе такая самая. Людзі натоўпамі будуць хадзіць па гамбургеры, і любыя размовы пра здароўе будуць выклікаць адно сьмех і непаразуменьне.

Хуткае харчаваньне — гэта бізнэс, і пакуль існуе попыт — будзе й прапанаваньне. Было б дзіўна, калі б карпарацыі фастфуду не карысталіся шанцам зарабіць грошы. Патрэбы масаў задавальняюцца ў поўным аб’ёме. Але ці сапраўды ў чалавеку яшчэ жыве такі моцны жывёльны інстынкт, што, нягледзячы на ўсе веды, ён падпарадкоўваецца страўніку, а ня розуму? Здавалася б, сьляпы спажывальнік ператварыўся ў гома сапіенс ужо вельмі даўно.

**Ян Мацур**

**У Берасьці на “Балахоўскіх могілках” да 82-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну і Палескага паходу Булак-Балаховіча ўсталяваныя мэмарыяльныя пліты. Аднак ня ўсе таямніцы гэтых пахаваньняў раскрытыя.**



# Помнік на Балахоўскіх могілках

У нядзелю 1 сьнежня, нягледзячы на сьцюжу й сівер, некалькі дзясяткаў берасьцейцаў з кветкамі і лямпадкамі прыйшлі памаліцца і ўшанаваць памяць жаўнераў войска генэрала Станіслава Булак-Балаховіча, пахаваных на вайсковых могілках у 1920 г. Сабралася пераважна моладзь. Уніяцкі сьвятар пасьвянціў памятны знак і адслужыў кароткую паніхіду. Гімн “Магутны Божа” гучаў над дзьвюма плітамі з надпісамі: “Тут спачываюць беларускія жаўнеры войска ген. С.Булак-Балаховіча” і “Яны ішлі паміраць за волю Бацькаўшчыны”.

Ня ўсе нават карэнныя берасьцейцы ведаюць, што ў раёне мясакамбінату (форт “Бэрг”) ляжаць польскія і беларускія салдаты. У савецкія часы “Балахоўскія могілкі” былі занядбаныя ды апаганеныя. Калі б не карчы, дык ці захавалася б не разьбітым хоць адно ўсталяванае за польскім часам надмагільле.

Пры канцы 1980-х на месцы гэтых пахаваньняў улады выдзелілі месца пад гаражы. Частка іх цяпер стаіць на магілах. Тады ж праз суполку “Стары горад” я выпадкова пазнаёміўся з дачкой кіраўніка гарадзкога аб’яднаньня ахвяраў камуністычных рэпрэсій Мікалая Левашкевіча. Менавіта ад яе я ўпершыню даведаўся пра Балахоўскія могілкі. “Балахоўскія” — бо на многіх помніках жаўнерам было напісана, што яны з групы генэрала Балаховіча. (Цяпер помнікаў з такімі надпісамі ўсяго чатыры, а яшчэ адзін належыць Казімеру Сабчаку зь менскага палка пяхоты, створанага падчас паходу Балаховіча ў Беларусь.)

Як прыкра было гэтай жанчыне, што на кладах будуюцца гаражы. У тыя часы прадухіліць будаўніцтва было немагчыма. Тады спн.Дыяна вырашыла хаця б уратаваць для нашчадкаў прозьвішчы пахаваных. Яна агледзела кожны помнік, перапісала ўсё, што яшчэ можна было расчытаць, і аддала сьпіс у касьцёл кс.Кароляку, бо ў іншых установах, як яна казала, нікому гэта не патрэбна. Шкада толькі, што і кс.Кароляк (цяпер дэпартаваны зь Беларусі ў Польшчу дзеля непаразуменьняў зь мясцовымі ўладамі) чамусьці нічога ня памятае, кажа, што таго сьпісу ў яго не захавалася.

Уратаваць рэшткі могілак удалося дзякуючы палякам зь Белай-Падляскай, з фундацыі РАХ, якая займаецца аховай помнікаў. Дапамагалі ім прыбіраць могілкі актывісты Саюзу палякаў у Беларусі. Для іх важнай была найперш памяць пра сваіх суайчыньнікаў. Пра беларусаў-балахоўцаў яны амаль ня згадвалі. Дый зь беларусаў да іх тады практычна ніхто не далучыўся, бо нічога ня ведалі пра могілкі.

У 1992 г. замест старых пабітых помнікаў асобным жаўнерам былі ўсталяваныя новыя. У мяне, праўда, склалася ўражаньне, што пры гэтым не асабліва імкнуліся захаваць прозьвішчы пахаваных. Сярод аднолевых помнікаў адно безыменныя: або невялікі стандартны крыж з бэтону, або пліта з крыжам і надпісам па-польску “Żołnierz NN armii polskiej, 1920”.

Сёлета ўвосень мы заўважылі ля плоту перакулены абсалютна цэлы помнік беларусу-разьведчыку Якубу Дзенісюку (? — VII.1920). Чаму ён там апынуўся, даводзіцца толькі гадаць. Бо на кладах сярод магілаў новага такога помніка мы не знайшлі. Кінулася ў вочы таксама, што з ацалелых помнікаў найбольш пашкоджаныя пліты, дзе ёсьць надпіс аб прыналежнасьці жаўнера да групы генэрала Балаховіча. Уражаньне, што нехта спрабаваў наўмысна пашкодзіць такі надпіс ці замазаць яго цэмэнтам, каб не чытаўся.

Гісторыя гэтых могілак яшчэ патрабуе ўдакладненьня, але вядома, што ў балахоўцаў у Берасьці быў лязарэт. Большасьць дакладна датаваных пахаваньняў па часе ахопліваюць пэрыяд ад кастрычніка да сьнежня 1920 г. Менавіта ў гэты час войска Булак-Балаховіча вяло бай на Палесьсі. Усяго пахавана на могілках ня менш за паўтысячы жаўнераў, прычым большасьць зь іх — невядомыя. Ёсьць пара дзясяткаў брацкіх магілаў, у якіх пахавана па 10 жаўнераў.

Магілы жаўнераў цяпер прыбраныя, а да шасьціметровага крыжа і сьціплага памятнага знаку штогод на дзень незалежнасьці Польшчы ўскладаюцца кветкі ад польскага кансуляту ў Берасьці. А вось мерапрыемствы на Дзень Волі лідэры берасьцейскіх адраджэнскіх арганізацыяў ладзяць часьцей ва ўтульных залях у цэнтры гораду.

Я спытаўся ў інспэктара па ахове помнікаў Берасьцейскага аблвыканкаму Л.Несьцерчука, хто даглядае вайсковы могільнік. “Я сам хацеў бы гэта ведаць”, — адказаў ён мне. Ня так даўно нехта зламаў мэталёвы крыжык на весьніцах. А адзін зь дзялкоў бізнэсу цікавіўся, колькі часу яшчэ могуць існаваць гэтыя могілкі, калі ж можна будзе атрымаць дазвол на забудову.

Новы помнік паўстаў дзякуючы прыватнай ініцыятыве берасьцейцаў.

**Вінцэсь Верамяюк, Берасьце**



Ст.Булак-Балаховіч (сядзіць у цэнтры) са штабам сваёй арміі

гістарычная даведка

# Начальнік узброеных сілаў

Як лічыць дасьледчык гісторыі беларускіх вайсковых фармаваньняў Алег Латышонак, “Берасьцейская крэпасьць — месца фармаваньня беларускага войска. Там павінна захоўвацца памяць аб гэтым войску і яго начальніку ген.С.Булак-Балаховічу. Было гэта адзінае дзейнае беларускае войска на той час”.

Генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч нарадзіўся ў 1883 г. на Браслаўшчыне. У першую сусьветную камандаваў дывэрсійным аддзелам царскага войска. Пасьля служыў у Чырвонай Арміі, сышоў зь яе і ваяваў супраць бальшавікоў у Эстоніі, перайшоў пад загад Ураду БНР. Аддзел генэрала Булак-Балаховіча вярнуўся ў Беларусь у пачатку 1920 г. і разьмясьціўся ў Берасьці. У яго шэрагах налічвалася каля 700 чалавек, 82 кані, 2 гарматы і 4 кулямёты. Палову афіцэрскага складу і тры чвэрці жаўнераў складалі беларусы. Гонарам Балаховіча была ягоная конная сотня — самыя верныя і спрактыкаваныя жаўнеры, якія прайшлі зь ім усю вайну.



Генэрал-маёр Станіслаў Булак-Балаховіч, 1920 г.

У час паходу бальшавікоў на Варшаву ў 1920-м аддзел генэрала Булак-Балаховіча пасьпяхова стрымліваў іх наступ на сваім участку фронту каля Ўладавы, разьбіў 67-ы полк конарміі Будзёнага ля Пугачова, а 27 верасьня вызваліў Пінск.

Пасьля спыненьня баявых дзеяньняў на польска-савецкім фронце, Булак-Балаховіч вырашае самастойна распачаць вайну з бальшавікамі. 6 лістапада 1920 г. ягонае 20-тысячнае войска пачало свой вызвольны паход на Мазыр, а 7 лістапада ў Тураве Булак-Балаховіч пад бел-чырвона-белым сьцягам складае прысягу змагацца за Беларусь да поўнага яе вызваленьня. Праз пяць дзён у вызваленым Мазыры генэрал Булак-Балаховіч абвяшчае незалежнасьць Беларусі, прымае тытул “Начальніка ўзброеных сілаў Дзяржавы” і зь сяброў Беларускага палітычнага камітэту стварае беларускі ўрад на чале з П.Алексюком. У аддзелы “бацькі” пачалі масава ўступаць сяляне.

Аднак разьвіць посьпех балахоўцы не далі рады — у Беларусь з Крыму перакінулі значныя сілы Чырвонай Арміі, якія пачалі выцясьняць іх войскі на захад, за польска-савецкі фронт. З баямі войска С.Булак-Балаховіча адступіла ў нэўтральную зону і было інтэрнавана палякамі. Але частка жаўнераў яшчэ некалькі гадоў вяла партызанскую вайну ў атрадах “Зялёнага дуба” на савецка-польскім памежжы. Сам “бацька” ў міжваенны час жыў у Белавежы, быў вядомы як антыкамуніст і антынацыст, напісаў кнігу беларускіх вершаў. Ён загінуў на пачатку другой сусьветнай вайны ў Варшаве ад нямецкай кулі.




Мапа баявых дзеяньняў арміі ген.Булак-Балаховіча супраць Чырвонай Арміі ў лістападзе 1920 г. на Палесьсі (чорнымі стрэлкамі пазначаны дзеяньні балахоўцаў, шэрымі — Чырвонай Арміі).

# Наступнік Кучмы

**Украінскі прэзыдэнт Леанід Кучма 9 сьнежня павёз у Маскву свайго новага прэм'ер-міністра Віктара Януковіча. Афіцыйная нагода для візыту — падпісаньне дакумэнтаў наконт транзыту расейскага газу праз Украіну і закрыцьцё Году Украіны ў Вялікім тэатры. Гэта ўжо восьмы візыт Кучмы ў Расею за гэты год. Рэкорды А.Лукашэнкі па наведваньні Масквы пабітыя.**

В.Януковіча, былога кіраўніка Данецкай вобласьці, называюць пераемнікам Кучмы на прэзыдэнцкіх выбарах, якія адбудуцца ва Ўкраіне праз два гады. Ён з Данецку, па-ўкраінску гаворыць кепска, у Заходняй Украіне мае рэпутацыю "маскаля". Самае цікавае ў ягонай біяграфіі — судзімасьці, якія ён меў у маладосьці. Праўда, у 90-я гады ён стаў ня толькі губэрнатарам, але шчэ й акадэмікам.

Кабінэт міністраў, узначалены В.Януковічам, — першы ад 1991 г., у якім няма ніводнага міністра, што нарадзіўся б на захад ад ракі Збруч. Новы прэм'ер адразу пасьля свайго абраньня абвясьціў, што ягоная мэта — як мага шчыльнейшае супрацоўніцтва з Расеяй "на ўзаемавыгадных умовах".



В.Янукович робіць уражаньне чалавека, які што ў рукі захапіў, таго ўжо не аддасьць. Перамагаць ён умее, прычым рознымі шляхамі. Парлямэнцкія выбары на Данеччыне выйграў урадавы блёк "За адзіную Ўкраіну", хаця ў цэлым у краіне ён здабыў менш за 10% галасоў. Можна толькі здагадвацца, якімі шляхамі. Януковіч таксама цесна зьвязаны з данецкімі бізнэс-кланамі і тамтэйшым алігархам Рынатам Ахметавым, уладальнікам прамысловых прадпрыемстваў, банкаў і нават футбольнай каманды "Шахцёр".

"Лукашэнкаў" шлях дае дывідэнды ўкраінскім алігархам, якія грэюць рукі на легальным і нелегальным бізнэсе з Расеяй і транзыце. Аднак гэта не дапамагае Ўкраіне вырашыць эканамічныя праблемы. Расея сёньня кіруецца прагматычнымі матывамі, і словы пра "братэрства народаў" яе ня грэюць.

Праз Украіну Расея транспартуе ў Заходнюю Эўропу 2/3 свайго газу. У кастрычніку пад ціскам Уладзімера Пуціна былі створаны расейска-ўкраінскі кансорцыюм, што кантралюе транзыт газу на Захад — дарма што раней Кіеў лічыў гэтыя трубаправоды сваім козырам у перамовах з Масквой. Сёньня Расея мае ў тым кансорцыюме амаль 50% акцыяў.

Наступны год ва Ўкраіне абвешчаны Годам Расеі. Аднак Кіеў і Масква па-ранейшаму застаюцца канкурэнтамі — як у гандлі на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу, так і на рынках Афрыкі ды Азіі.

**Мікола Бугай**

## Эўразьвяз забараніў лёгкія цыгаркі

**Вярхоўны суд Эўразьвязу 10 сьнежня забараніў прадаваць цыгарэты з пазнакай *"light"* (лёгкія) і *"mild"* (мяккія).** Яны, мяўляў, уводзяць у зман пакупнікоў і ствараюць уражаньне, што паленьне ня шкодзіць арганізму. Гэтак скончыўся суд паводле пазову спажыўцоў да буйных тытунёвых кампаніяў *"Imperial Tobacco"* ды *"British American Tobacco"*. Апроч таго, паводле рашэньня суду, папераджальны надпіс пра шкоду паленьня мусіць займаць цяпер ня менш за 30% плошчы пярэдняга боку цыгарэтнага пачку і ня менш за 40% — задняга.




Да супольнага рашэньня не далучыцца Нямеччына. На яе думку, такія абмежаваньні на рэкляму тытуню падарвуць эканамічныя асновы СМІ.

## Няма "Życia"

**Вядомая польская газэта *"Życie"* 9 сьнежня прыпыніла сваё існаваньне дзеля браку грошай.** Журналісты застрайкавалі ад 4 сьнежня, бо не атрымалі заробкаў за верасень. Запазычанасьць газэты па заробках сягнула ўжо 100 тыс. злотых. Частка супрацоўнікаў выдавецкага дому *"Wolne Slowo"*, куды ўваходзіць і *"Życie"*, не атрымала ганарараў яшчэ за сакавік. Заява пра банкруцтва мэдыя-холдынгу "Выдавецкі дом *"Wolne Slowo"*" ужо накіраваная ў суд.

ŻYCIE

## Падзеньне папулярнасьці Шродэра

**Толькі-толькі адбыліся выбары, а ўрад Гергарда Шродэра ўжо страціў падтрымку немцаў. Паводле апошняга сацыялягічнага апытаньня, толькі кожны сёмы грамадзянін ФРН задаволены дзеяньнямі кабінэту. Уплывовы часапіс *"Der Focus"* напісаў пра магчымую датэрміновую адстаўку Шродэра. А ў аўторак і сам лідэр СДПН у кулюарах прыгразіў, што сыдзе ў адстаўку, бо стаміўся ад беспадстаўнай крытыкі.**

Немцы ўзьняліся супраць свайго ўраду, бо той пастанавіў падвысіць амаль 50 відаў падаткаў. Іншага спосабу выправіць дэфіцыт бюджэту кабінэт не знайшоў. Адпаведна, падаражэе ўсё — ад бэнзыну і цыгарэтаў да кветак і электраэнэргіі. Больш грошай трэба будзе аддаваць і на сацыяльнае забесьпячэньне (пэнсіі, мэдычную страхоўку). Звычайнаму бюргеру гэта абыдзецца ў колькі сотняў эўра штогод.



Прычына эканамічных цяжкасьцяў у тым, што магутнай сыстэме сацыяльнага забесьпячэньня не хапае сродкаў. Зьвілася маса людзей, што паразытуюць на сацыяльных гарантыях дзяржавы і зусім ня хочуць працаваць. Магчымасьцю не працаваць і атрымліваць сацыяльную дапамогу — *Sozialhilfe* — ФРН прывабіла і мноства іншаземцаў. Многія зь іх гадамі жывуць на ўтрыманьні. За ўсё ж трэба плаціць звычайным немцам.

**Сяргей Радштэйн**

## Адна ноч у ГУЛАГу



Былыя палітвязьні да сёньня з жахам прыгадваюць Пермскія працоўныя лягеры на Ўрале, дзе за саветамі загінула безьліч людзей. Цяпер тыя "зоны" выкарыстоўваюць для прыцягненьня турыстаў. Уральская арганізацыя *"Permtourist"* і музэй палітычных рэпрэсіяў "Перм-36" прапануе замежнікам адну ноч "у капцюрох ГПУ" — з спаньнем на нарах і лягернай ежай. "Вострыя адчуваньні" гарантуюцца: баракі больш нагадваюць клуні, чым жытло, а баланда станецца чыстай экзотыкай для сытага пакаленьня канца XX — пачатку XXI ст. Праваабаронцы й былыя палітвязьні падтрымалі праект як сродак вывучэньня сумных памылак мінуўшчыны. "Гэта было б вельмі карысна для нашых дэпутатаў, для нашых судзьдзяў і абвінаваўцаў — пражыць адзін дзень у камэры ГУЛАГу", — сказаў Сяргей Кавалёў, які прабыў у Пермскім лягеры ад 1976 да 1980 г.

**Аркадзь Шанскі**

## Два калашнікавы й баявік

**У Сэрбіі другі раз праваліліся прэзыдэнцкія выбары.**

На паўторнае галасаваньне 8 сьнежня прыйшлі толькі 45,2% выбарцаў, хаця закон вымагае, каб іх было больш за 50%. Цяперашні прэзыдэнт Ваіслаў Каштуніца, які набраў 57,5% галасоў, лічыць сябе "маральным пераможцам" і вінаваціць у сабатажы выбараў урад, прэм'ер-міністра, кіроўную партыйную кааліцыю. Другое месца заняў прадстаўнік крайняй правіцы Ваіслаў Шэшаль (36%), трэцяе — нацыянал-папуліст Барыслаў Пялевіч (3,5%). Зважаючы на тое, што і В.Каштуніца — прадстаўнік кансэрватыўных нацыяналістаў, разумееш сэрбаў: выбіраць ім не было з чаго. Палітык з Ваяводзіны Ненад Чанак перад выбарамі жартаваў, што сэрбам прапанавалі выбар паміж "двума калашнікавымі і адным баевіком". Каштуніца і Шэшаль фігуравалі на перадвыбарчых плякатах з карабінамі, Пялевіч жа ваяваў у Босьніі ў войску Аркана.



"Іншую Сэрбію" рэпрэзэнтаваў на папярэдніх выбарах у кастрычніку лібэрал Міралюб Лабус. Аднак другі раз ён ужо не вылучаўся.

Небясьпека ж падсьцерагае Каштуніцу зь іншага боку. Паводле праекту новай Канстытуцыі краіны Сэрбіі й Чарнагорыі, прэзыдэнта будзе выбіраць фэдэральны парлямэнт з сэрбскіх і чарнагорскіх дэпутатаў. Каштуніца, які ня мае вагі ў сэрбскіх палітычных эліт, у гэтым выпадку губляе шанец застацца прэзыдэнтам.

**Ф.С.**

# Сто год сэнатара Тэрманда

**Найстарэйшы за ўсю гісторыю ЗША сэнатар з Паўднёвай Караліны Стром Тэрманд адзначыў 4 сьнежня свой 100-ы дзень народзінаў. Спадара Тэрманда можна было б назваць хадзячай амэрыканскай гісторыяй, калі б ён мог спраўна перасоўвацца. Але стары сэнатар ледзьве рухаецца, амаль ня мае моцы, каб размаўляць, і недачувае, што яму кажуць. Так было не заўсёды: яшчэ нейкія 34 гады таму, ужо маючы шэсьць зь лішкам дзясяткаў, сэнатар ажаніўся зь Міс Паўднёвая Караліна, маладзейшай за яго роўна ў тры разы. Гэткі самы спрыт ён выказаў нават у сваёй разьвітальнай прамове перад сэнатарамі: "Люблю вас усіх, а вашых жонак асабліва".**

С.Тэрманд — вэтэран вайны. Ён мужна паводзіўся ў часе высадкі саюзьнікаў у Нармандыі. Неўзабаве пасьля вайны Тэрманд зрабіўся губэрнатарам Паўднёвай Караліны. Праз восем гадоў трапіў у Сэнат, дзе выявіў сябе гарачым прыхільнікам расавай сэгрэгацыі. Ён шматкроць выступаў супраць наданьня афраамэрыканцам права ўдзелу ў выбарах, разьюшана нападаў на сэнатараў, якія жадалі злучыць школы для белых і чорных. Тэрманд быў аўтарам самай доўгай прамовы за ўсю гісторыю сэнату — ён гаварыў 24 гадзіны 18 хвілінаў, спрабуючы зблякаваць прыняцце пастановы пра грамадзянскія правы чарнаскурых амэрыканцаў.



Але сэгрэгацыя адышла ў гісторыю, і афраамэрыканцы атрымалі права голасу. Тэрманд зьмяніў палітыку ды зрабіўся першым рэспубліканцам, які ўзяў на працу дарадцаў-мурынаў ды прасоўваў у Сэнаце праект абвяшчэньня сьвята ў гонар Марціна Лютэра Кінга. Падчас апошняй выбарчай кампаніі за Тэрманда галасаваў кожны чацьверты чорны выбаршчык Паўднёвай Караліны.

Апошнім часам стары сэнатар бавіўся тым, што частаваў цукеркамі маладых супрацоўнікаў Сэнату і распавядаў журналістам пра свае амурныя подзьвігі. Разьвітаўшыся з сэнатарскім фатэлем, Тэрманд накіруецца ў родны горад Эджфілд, дзе адмыслова для яго да тамтэйшага шпіталю прыбудавалі крыло. У гэтым прытулку ён і будзе дажываць.

**Франц Субель**

# Міхал Анемпадыстаў:

# “Шчасьлівы, хто мае сяброў-музыкаў”

**Міхал Анемпадыстаў — мастак-плякатыст. На музычных інструмэнтах ён актыўна ня грае і на сцэне не сьпявае. Але без знаёмства зь ім уяўленьне пра нашую рок-культуру было б няпоўным. Песьні на вершы Анемпадыстава сьпявалі на пачатку 90-х Кася Камоцкая і Лявон Вольскі. А складзены Міхалам “Народны альбом” здолеў згуртаваць вакол сябе ўвесь вышэйшы рокавы эшалён, апроч, хіба, Варашкевіча. З тае пары мінула ўжо некалькі гадоў, былі іншыя супольныя праекты. Пра зьмены ў беларускай музыцы, пра навінкі апошняга году з Міхалам Анемпадыставым гутарыць карэспандэнт “НН”.**

**“НН”: Пасьля шумнага посьпеху “Народнага альбому” Вы адчулі сябе “зоркай”?**

**М.А.:** Не, бо мне гэта ня вельмі трэба. Да зьяўленьня “Народнага альбому” я маляваў плякаты, і мяне ведалі як мастака-плякатыста, пісаў тэксты для Касі — і тыя, каму трэба, таксама мяне ведалі. Таму не атрымалася так, нібы я вылез пад сьвятло ліхтароў і раптам стаў “зоркай”. “Зорка” — гэта ня толькі ўзровень знанасьці, але і склад характару, манера паводзінаў. Піт Паўлаў — “зорка”: нават калі б ён ня быў такі вядомы, дык усё адно быў бы “зоркай”.

**“НН”: Ці плянуецца працяг “Народнага альбому”?**

**М.А.:** Такога кшталту працягі зьяўляюцца, калі першая частка атрымлівае камэрцыйны посьпех. Пасьля першай часткі людзі чакаюць — і пойдуць на другую, нават калі там будзе поўны правал. А “Народны альбом” — некамэрцыйны праект. Дый тэма там завершаная, я ня ведаю, куды яе можна разьвіваць. Мы напісалі п’есу ў працяг альбому — крыху больш падрабязна распавялі, пра што сьпяваецца ў песьнях. Ранейшы пэрыяд мусіў бы закрануць “Народны альбом-0”. А “Народны альбом-2” мусіць паказаць ваенныя часы. Вайна — гэта страшная трагедыя, і гэта быў бы ўжо зусім іншы “альбом”.

### “Тры кіты”

**“НН”: Якая музыка Вам найбліжэйшая?**

**М.А.:** Слухаю “Ольсу”, напрыклад. Перад Калядамі цэлы месяц ад першай нядзелі сьнежня буду слухаць “Сьвяты Вечар”. Мне вельмі падабаецца басанова, сёе-тое з джазу. Люблю “карчомную” музыку — эстонскую, латыскую, польскую. Гіп-гоп люблю, рэгі, блюз, але збольшага ў якасьці фону. “NRM”, “Краму”, “Новае Неба” трэба слухаць на канцэртах. Касю — лепш за ўсё на акустычным. Шалкевіча лепей таксама слухаць на канцэрце. Да таго ж, на яго шчэ цікава і глядзець. А разам з Вайцюшкевічам можна яшчэ і пасьпяваць.

Мне пашанцавала, я маю сяброў-музыкаў, магу слухаць іхныя песьні ў прыватнай кампаніі, пад акустычную гітару, пасьля канцэрту альбо проста так. Тады, як ніколі, адчуваецца дотык да мастацтва, усё адбываецца нязмушана і шчыра. Зь нейкіх выпадкова кінутых словаў, жартаў, гукаў нараджаецца нешта новае. Мы аднойчы ехалі ў цягніку. Дземідовіч і Паўлаў, удаючы голас Ельцына, усё паўтаралі ўласны жарт: “На чом дзержыцца Расія? Расія, панімаіш, дзержыцца на трох кітах: (*паўза*) на первам, втаром і трэцім кіце”. Яны голасна адточвалі гэтую фразу ўсю ноч. Іншыя пасажыры, мабыць, думалі, што едуць вар’яты з маніяй велічы — уяўляюць сябе Ельцыным... А празь месяц зьявілася песьня “Тры чарапахі”.



## Я, да жалю, ня пан

Я, здаецца, ня тут
Я, напэўна, ня там
Я, да жалю, ня пан
Я, на шчасьце, ня хам

Я твайго не вазьму
Я свайго не аддам
Вось мой дом, вось мой плот
Вось за плотам паркан

Ад нуды ды бяды
Уратуюся сам
Час зьбіраць камяні
Час расьці камяням

Я, да жалю, ня пан
Я, на шчасьце, ня хам
Я, здаецца, ня тут
Я, напэўна, ня там

Неакрэслены стан
Незавершаны лад
Я стаю на мяжы
Паміж дрэваў і хат

Вось дарога туды
Вось дарога назад
Там дубы ля вады
Тут шыпшынавы сад

Я, здаецца, ня тут
Я, напэўна, ня там
Я, да жалю, ня пан
Я, на шчасьце, ня хам

Я стаю на мяжы
Я іду па нажы
Божа, дапамажы
Захаваць раўнавагу



Удзельнікі “Народнага альбому”. Стаяць (зьлева направа): Слава Корань, Зьміцер Вайцюшкевіч, Аляксандар Памідораў, Міхал Анемпадыстаў, Лявон Вольскі. Сядзяць: Алег (Алезіс) Дземідовіч, Вэраніка Круглова, Сяргей Ахрамовіч, Піт Паўлаў.

### Не забываймася на Беласток

**“НН”: Беларускамоўны рок у сярэдзіне 90-х быў вельмі папулярны. Чаму на гэтай хвалі не зьявілася нешта новае? Чаму не адбылася зьмена пакаленьняў?**

**М.А.:** Ня ведаю. Мо таму, што ў нас няма нармальнага шоў-бізнэсу: зарабляць творчасьцю на хлеб беларускім музыкам у Беларусі складана. Адно за другое, і граньне року перастае быць прывабным заняткам.

Іншая прычына палягае ў тым, што на пачатку 90-х было пра што казаць. Паветра было насычанае новымі ідэямі, новымі словамі, якія варта было агучыць. Сапраўдны рок-н-рол — гэта шчырая музыка. Яна не трывае надуманасьці і паўтораў. Фразаэлёгія (а значыць, і стылістыка) 90-х вычарпала сябе. Стагнацыя ў грамадзкім жыцьці адбіваецца стагнацыяй у мастацтве, рок рэагуе на гэта ў першую чаргу. Няма пра што казаць — значыць, няма і каму казаць. Прынамсі гэтак голасна, як гэта рабілася музыкамі 90-х. Калі паўстануць новыя асобы (а яны напэўна паўстануць), то гэта будзе іншая музыка, іншыя словы, іншая стылістыка. А мы чамусьці чакаем такіх новых, каб былі падобныя да папярэднікаў.

**“НН”: Дык хіба новыя музыкі не зьяўляюцца?**

**М.А.:** Ёсьць, прыкладам “Стары Ольса”. Яны працуюць у іншай стылістыцы: знайшлі сваю дзялку і асвойваюць яе. І музыка Сярэднявечча сёньня модная. Зьявілася асяродзьдзе, якому такая музыка патрэбная: рыцарскія “тусоўкі”, фэсты... У апошняй “Бардаўскай восені” ў Бельску ўдзельнічалі новыя людзі. Яны таксама робяць ужо іншую музыку.

**“НН”: Хто канкрэтна?**

**М.А.:** Вольга Каленік зь Менску. Калі добра пойдзе, дык нешта цікавае будзе. Спадабаўся дуэт “4 і 8” зь Менску. Хлопцы граюць блюз, пішуць вельмі добрыя тэксты. Зацікавіў і Тамаш Суліма зь Бельску — артыстычны малады чалавек. У яго ёсьць прага стварэць, і гэта цешыць.

На жаль, мы часта забываемся на Беласток, калі гаворым пра беларускую музыку. А Беласточчына — калыска беларускага року: там ужо 10 гадоў запар адбываецца і “Басовішча”, дзе фармавалася стылістыка нашага року, сама рокавая супольнасьць, і “Бардаўская восень”. Зноў-такі, вельмі цікавыя людзі. Ня буду называць імёны, бо ўсё адно нехта пакрыўдзіцца. Назаву толькі Юрку Асеньніка. Нашай памылкай было тое, што ніхто не парупіўся пазнаёміць людзей у Беларусі з творчасьцю “Брагі”. У яго вельмі жорсткая музыка, ні да кога не падобная. Цяпер ён робіць праект “Zero-85” — большасьць тэкстаў па-беларуску, ёсьць крыху па-польску і, здаецца, на іншых мовах.

Беласток патрабуе нашае ўвагі, а нам, безумоўна, патрэбна тое, што ўзьнікае там.

### Патрэбны Поль Марыя

**“НН”: А якая музыка ў нас магла б быць пэрспэктыўнай?**

**М.А.:** У краіне, дзе існуюць моўныя праблемы, бар’еры паміж беларуска- і расейскамоўнымі, мусіла б разьвівацца інструмэнтальная музыка — у якасьці нейкага разумнага кампрамісу. І яна магла б быць камэрцыйнай.

**“НН”: Кшталту аркестру Поля Марыя?**

**М.А.:** Так, прафэсійная папса. Добрыя цікавыя музыкі ў нас, калі верыць газэтным публікацыям, ёсьць. Але пакуль што падобныя праекты абмяжоўваюцца адным толькі аркестрам Фінберга. Альбо яны папросту не даходзяць да шырокай публікі.

**“НН”: Беларускі рок стаў практычна адной разьвітай нацыянальнай музычнай зьявай. Такога посьпеху не дасягнулі ні бардаўская песьня, ні рэп, ні гіп-гоп. Чаму?**

**М.А.:** Жанры зазнаюць свае пэрыяды папулярнасьці і запатрабаванасьці. Так, бардаўская песьня, як і француская шансон або польскі кабарэт, — гэта ўсё ж 60-я гады. Беларускае адраджэньне канца 80-х прыпала на новую хвалю ў музыцы — вяртаньне цікавасьці да року ва ўсім сьвеце. Таму рок стаў беларускай зьявай. Шмат залежыць і ад асобы. Вось року пашанцавала, што ёсьць Кася Камоцкая, Ігар Варашкевіч, Лявон Вольскі, Слава Корань.

**Гутарыў Аркадзь Шанскі**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Пётра Садоўскі

# Быць сабою ў слове

**Культура мовы — гэта ня толькі прыняты большасьцю правапіс, граматыка ды вымаўленьне. Выбіраючы слова, публічная асоба сьвядома ці інтуітыўна самаідэнтыфікуецца ў пэўным культуралягічным кантэксьце. Можна быць звышадукаваным "чалавекам сьвету", натуральна жыць у асацыяцыях некалькіх народаў і моваў, але ёсьць пэўная мяжа, празь якую пераступаць нельга. Калі я чытаю, напрыклад, царкоўны тэкст, пісаны па-беларуску і добраславёны праваслаўным кіраініцтвам, але сустракаю там выраз кшталту "каючыйся грэшнік", то кажу сабе: "Зьлітуйцеся з прафанаў, Ваша Правялебнасьць: марфалёгія вышэйшая за добраслаўленьне!" Або дыктар БТ Косьцін цягам доўгіх гадоў прамаўляе: "аматары мастацкай гімнастыцы" (замест гімнастыкі), "прэзыдэнт Рэспубліцы Беларусь" (замест рэспублікі). Хацелася б у гэтай рубрыцы закрануць тое, пра што мала пішуць: як у нашым слове адлюстроўваецца наша самасьць, наколькі непасрэдна мы кантактуем са сьветам.**

**Пачаць нататкі хочацца зь лёгкага й займальнага: культуралягічных кур'ёзаў, народжаных фальшывай патэтыкай ды жаданьнем выглядаць рэспэктабэльна. Гэта вельмі часта здараецца, калі нашыя землякі прымяраюцца да расейскамоўнай узьнёслай стылістыкі ці фразэалёгіі, плодзячы свае ды паўтараючы чужыя памылкі.**

**За гады сабралася цэлая камора зь вязенькай...**

## Малінавы пах ды малінавы звон

Лаўлю ў маім жэкаўскім "чырвоным гучнамоўцы", што на кухні, толькі хвост сыропных замілаваньняў нейкага расейскамоўнага беларускага літаратара (тэмбрам падобнага да Спрынчана-старэйшага), які спавядаецца пасьля маскоўска-суздальскіх "інтэграцыйных" сустрэчаў: "*И всё моё естество наполнилось этим малиновым звоном, и вспомнилось, как мы с мамой собираем знойным летним днём пахучую малину... Чувство неразрывного братства с великим русским народом окрылило меня на новое стихотворение...*"

Думаю сабе: ці то праўда так гладка лжэ, ці мо сапраўды мае такі незвычайны нюх?

Бо выраз "малінавы звон" паходзіць ад францускага назову *Maline* бэльгійскага гораду *Mechelen*, дзе патомныя майстры Кальдэрманс выраблялі званы з адмысловым тэмбравым гучаньнем.

## Дзіця бяз вока

У інтэрвію дэкана факультэту журналістыкі БДУ В.Вараб'ёва ("Звязда", 22 верасьня 2000 г.) чытаем: "...бо пакуль гэтай справай займаецца шмат нянек, але дзіця бяз вока" (прабачце за калямбур)..." Лёгка ўгадваецца арыентацыя на расейскае "*У семи нянек дитя без глазу*". Толькі тут у расейскай "*глаз*" мае сэнс "нагляд, увага, клопат" (таму і ўжываецца з канчаткам "-у" ў родным склоне).

У беларускай мове пра нядбайных нянек згадваюць блізу дзясятку фразэалягізмаў: "Дзе кухараў шэсьць, там нечага есьць", "Дзе нянек многа, там дзіця бязнога", "Дзе бабаў многа, там хата немяцёна" і г.д.

Калямбур (фр. *calembour*) — выкарыстаньне (звычайна з мэтай стварэньня камічнага эфэкту) падобнага гучаньня словаў (ці іхных частак) з розным значэньнем. Напрыклад, піцьменьнікі — пісьменьнікі, інтэграсты — пэдэрасты. Так што ніякага калямбуру ў спадара дэкана не атрымалася. Проста калька з расейскай. Магчыма, спадар дэкан арыентаваўся на францускую мову. Там ёсьць падобнае: "*Chez sept nourrices l'enfant sans yeux*". Але ж тады трэба было адзначыць: "як кажуць французы". Ізноў калямбуру не атрымліваецца.

## Лоб і *lobby*

Зноў жа ў "чырвоным гучнамоўцы" чую, а празь дзень у дзяржаўным друку чытаю сярод заканатворчых пасажаў тадышняга сьпікера ніжняй палаты Малафеева: "Гэтае пытаньне нельга лабіраваць. Лабавая атака ня пройдзе..."

Заканатворца не перапрашаў слухачоў за калямбур. Не зрабіла гэтага і дзяржаўнарадыйная журналісцкая абслуга.

Дзеяслоў "лабіяваць" паходзіць ад ангельскага *lobby* — вялікая заля, пачакальня, напр. у гатэлі на цокальным паверсе. У Эўропе і ЗША яна пазначаецца ў ліфце літарай "L". Як рэалія: заля перад Палатай Грамадаў у Вялікай Брытаніі ці ў Сэнаце ЗША, дзе дэпутаты парлямэнту могуць сустракацца з грамадзянамі. Цягам сустрэчаў ідуць абмеркаваньні, як найлепш правесьці пэўны законапраект праз галасаваньне. Гэта і называецца "лабіяваць" — *to lobby*.

## Да сваіх Пэнатаў

Беларускія сацыялістычныя журналісты вельмі любілі ўсьлед за расейскімі калегамі пераніцоўваць будзённыя рэчы на ўзьнёслы лад: бульба — другі хлеб, буракі — салодкія карані, нафта — чорнае золата, лён, бавоўна — белае золата, рухавік — сталёвае сэрца, сяўба — веснавая барацьба за ўраджай, уборка — восеньская барацьба за ўраджай, гной — вітаміны ўрадлівасьці і г.д.

Пачуўшы ад некага таямнічае слова "пэнаты", сярэдні беларускі журфакавец сканструяваў замест выразу "вярнуцца дадому" ўзьнёслы заменьнік: "вярнуцца ў родныя пэнаты". Магчыма, тут яшчэ ёсьць нешта ад свайго: родныя хаты.

Пэнаты ж, паводле старажытнарымскае міталёгіі, гэта хатнія сямейныя боствы, якія ахоўваюць жытло, гаспадарку, запасы і скарбы пад зычлівым акрыцьцём "Бога запасаў" Пэна (Penus). Лічылася, што ў кожным жытле могуць быць свае адметныя пэнаты. Аднак ня менш чым двое. Акрамя таго, кожны край, кожная зямля павінны мець сваіх пэнатаў-апекуноў.

Такім чынам, ідучы дадому, можна вярнуцца толькі *да сваіх (родных) пэнатаў*.

Вярнуцца ў Пэнаты мог толькі адзін чалавек — расейскі мастак Ільля Рэпін, бо Пэнатамі звалася ягонае леціпіча, што месьцілася ў фінскім паселішчы Куокаля блізу Санкт-Пецярбургу. Цяпер там музэй.

## Здаровы дух і здаровае цела

Мала хто ня чуў лацінскага выразу (дакладней, часткі выразу) "*Mens sana in corpore sano*", які зазвычай перакладаюць "У здаровым целе здаровы дух". Трактуюць яго звычайна паспартоваму ды ўжываюць, калі гаворка ідзе пра стадыёны, лядовыя палацы, джогінг і г.д. Маўляў, давайце займацца спортам, і дух наш узлунае. Аднак самая простая лёгіка прымушае задумацца, што нешта тут ня так. Варта ўзгадаць вухаеда Майка Тайсана ці хвігі Жабацінскага на ўвесь TV-экран. Які ўжо тут трыюмф духу?

Гэты выраз узяты ў абсечаным выглядзе з сатырычнага вершатвору рымскага сатырыка Ювэнала (каля 60 — каля 127 г. н.э.), дзе ён раіць грамадзянам: "Трэба маліць (багоў), каб розум быў здаровы ў целе здаровым. Бадзёрага духу прасі, што ня ведае страху перад сьмерцю".

"Пажадана-аптымальны", а не "прычынна-выніковы" характар гэтае максымы падкрэсьліваў і ангельскі філёзаф-асьветнік Джон Лок (1632—1704) у трактаце "Пра выхаваньне". Ён пісаў: "Здаровы дух у здаровым целе — вось сапраўдная мяжа шчасьця, якая можа быць на гэтым сьвеце".


IREX-PROMEDIA

**Вядомы мовазнаўца Вінцук Вячорка размаўляе з генэралам міліцыі Барысом Тарлецкім**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Дранько-Майсюк Л. Паэтаграфічны раман:** Вершы, проза. — Менск: Кніга, 2002. — 111 с.: іл.

У новай кнізе Леаніда Дранька-Майсюка — развагі пра месца паэта ў грамадзтве, спроба стварыць мастацка-палітычны партрэт сучаснага беларускага аўтара. Прыдбаць кніжку можна ў кнігарнях "Сьветач", "Цэнтральная", "Веды", "Падпісныя выданьні", "Акадэмкніга". Каштуе яна 1500 рублёў.

**Курапаты:** Зборнік матэрыялаў / Грамадзкая ініцыятыва "За ўратаваньне мэмарыялу Курапаты"; Грамадзкі архіў найноўшай гісторыі пры ГА "Дыярыюш". — Менск, 2002. — 114 с.

Сярод узьнятых аўтарамі зборніка тэмаў — гісторыя "адкрыцьця" Курапатаў, асноўныя вынікі праведзеных тут археалягічных раскопак, фальсыфікацыя дзяржавай прычынаў сьмерці рэпрэсаваных, спробы "народнай" мэмарыялізацыі й, нарэшце, "курапацкая хроніка" пачатку XXI ст. У кнізе ёсьць мапы, на якіх пазначаныя месцы масавых забойстваў людзей у Беларусі й у межах Менску, а таксама дакумэнты па справе Курапатаў. Наклад абмежаваны — 299 асобнікаў.

**Народная культура Беларусі:** Энцыкл. давед. / Пад агульн. рэд. В.С.Цітова. — Менск: Беларуская энцыклялэдыя, 2002. — 432 с.: іл.

Як выглядае бурка? Што такое вабік? Чым, на думку нашых продкаў, былі шкодныя злыдні ды малочныя ведзьмы? Кампэтэнтны адказ на гэтыя пытаньні можна знайсьці ў даведніку "Народная культура Беларусі". Каштуе даведнік каля 8000 рублёў, прадаецца ў "Акадэмкнізе", "Сьветачы", "Кнігарні пісьменьніка".

**Сянкевіч Г. Quo Vadis:** Раман / Перакл. з польск. мовы П.Татарыновіча; Прадм., камэнтар, трансьлітарацыя лацін. тэксту ў кірылічны, рэд. В.Мартыненкі. — Менск: Медысонт, 2002. — 412 с.

Знакаміты раман Нобэлеўскага лаўрэата Генрыка Сянкевіча яшчэ 50 гадоў таму пераклаў на беларускую мову ксёндз Пётра Татарыновіч. Але кніга, выдадзеная ў Рыме, была даступнаю толькі беларусам-эмігрантам. І вось нарэшце яе перавыдалі ў Беларусі. Адзіны мінус — малы наклад: усяго 300 асобнікаў.

**Варава А. Этюды о Беларуси: Дорожные очерки.** — Менск: Менсктыппраект, 2002. — 252 с.

Расейскамоўная кніга лёгка й даступна распавядае пра найпрыгажэйшыя й найцікавейшыя помнікі гісторыі Беларусі. Аўтар едзе старымі трактамі й сучаснымі аўтастрадамі па Меншчыне, Палесьсі, Панямоньні, Паазер'і, ствараючы свайго кшталту мастацкую мапу Беларусі. Маляўніча апісаныя Горадня, Полацак, Менск, Косава, Ружаны, Астравеччына, Браслаўшчына. Усе маршруты й разьмяшчэньне помнікаў архітэктуры пададзеныя зь вялікаю дакладнасьцю, так што, калі зьберацеся ў падарожжа, гэтае выданьне дапаможа не заблукаць у чужых мясьцінах. У "Акадэмкнізе" кніга каштуе 9500 рублёў.

**Падрыхтавала Тацяна Вабішчэвіч**

**У суботу 7 сьнежня БМА ладзіла "Вольныя танцы", што аб'ядналі ў сабе тры канцэрты. На ім бізнэсовец Зьміцер Дайнэка выкупіў альбом "Partyzone" і задарма раздаў слухачам.**



# Танцы ў "Акварыюме"

7 сьнежня "Вольныя танцы" аб'ядналі першы за год канцэрт "Крамы", прэзэнтацыю альбому сёлетняга пераможцы "Басовішча" — гурту *"Partyzone"*, плюс вяртаньне на сцэну "Імпэту" з новымі песьнямі. Такім чынам, набыўшы адзін квіток у "Акварыюм", можна было паслухаць тры сольныя канцэрты розных па стылю камандаў.

Прыхільнікі "Імпэту" так і не пачулі колішняга гіту гурту — "Зусім няпроста", а ўсе астатнія песьні зьмяшаліся ў нейкую гукавую (з-за апаратуры) і моўную (беларуска-расейска-ангельскія тэксты каманды было досыць цяжка разабраць) кашу. Адну зь песьняў вакалістка Дана прысьвяціла *"Музыкальной газете"* — дагэтуль ніхто, здаецца, песень пэрыядычным выданьням не прысьвячаў. Але дзеля невыразнага гуку ў залі было досыць цяжка зразумець ідэю тае кампазыцыі.

З выхадам "Крамы" заля завdespite... 

З выхадам "Крамы" заля заварушылася: пасьля леташняе прэзэнтацыі дыску "Хавайся ў бульбу!" бачыць музыкаў на сцэне не даводзілася. Публіка, ссумаваўшыся па "Краме", "адрывалася" пад старыя гіты кшталту "Сьветлага анёла" або "Што дапаможа нам". Новых песень Варашкевіч не сьпяваў. "А хто прыдумаў, што гурт павінен выпускаць па альбоме ў год і пасьля яго прэзэнтацыі ўжо рыхтаваць наступны? Гэта бязглузьдзіца — мы будзем граць і запісваць што жадаем і калі жадаем", — сказаў ён карэспандэнту "НН" пасьля канцэрту.

І ўсё ж вечарына задумвалася пад экстрэмальны гурт *"Partyzone"*. Хлопцы прэзэнтавалі альбом "Трэба рабіць". Падчас іх выступу адзін з гледачоў — бізнэсовец Зьміцер Дайнэка выкупіў усе наяўныя (каля шасьці дзясяткаў) касэты з новым альбомам і раздаў слухачам. "Слухайце толькі беларускае. Гэта краіна будзе нашай", — сказаў Дайнэка, калі яго выклікалі на сцэну.

**Сяргей Будкін**

**На фота: вакалістка "Імпэту" Дана**

# Падарожжы на Новы год

**Адышлі ў мінулае тыя часы, калі за калядную вандроўку ў Польшчу трэ было выкласьці ўсяго 20 даляраў. Яшчэ год таму паездка на выходныя ў Варшаву каштавала менавіта столькі. Прычым у кошт уваходзіла яшчэ некалькі паслуг, кшталту наяўнасьці прафэсійнага гіда ці наведаньня заапарку.**





Цяпер цэны на рынку турыстычных паслуг набліжаюцца да сусьветных. Сёлета тры-чатыры дні ў Вільні, напрыклад, з 31 сьнежня да 2 студзеня, абыдуцца даросламу ў суму ад 100 да 140 даляраў (кошт залежыць ад "зоркавасьці" гатэлю). Але можна знайсьці й таньнейшую вандроўку, даляраў за 60. Пры гэтым трэба даволі пільна ўглядацца ва ўмовы, што прапануюць.

Наведаньне таго ж Кракава па цане выглядае нават больш прывабна, чым адпачынак у сталіцы ВКЛ: пяцідзённая навагодняя вандроўка — 130—150 даляраў. Праўда, большасьць турагенцыяў дадае да вандроўкі загадкавую "навагоднюю вячэру" за 40—50 даляраў.

Кансэрватыўныя беларусы, што ня любяць замежжа, могуць сустрэць Новы год у якім-небудзь спарткомплексе. Так, пажыць два дні ў "Стайках" каштуе каля 110 тыс. рублёў на чалавека. Вас чакае забаўляльная праграма ды навагодні стол. Адпачынак на беразе вадасховішча "Дразды" на базе "Беларусь" будзе каштаваць 142 тыс. рублёў, дзецям да 16 гадоў — 123 тыс., да пяці — 47 тыс. Праезд на аўтобусе, пражыцьцё, навагодняя праграма, харчаваньне й адмысловае шоў для дзетак уваходзяць у цану квітка. За асобную плату прапануюцца саўна й кіназаля. Калі ж Вы зьбіраецеся абысьціся толькі першапачатковай сумай, тэлевізію давядзецца глядзець разам з усімі ў холе. Працягласьць праграмы — два дні. Новы год у Нацыянальным парку "Браслаўскія азёры" пацягне ад 180 да 200 тыс. рублёў.

Калі Вам карціць адпачыць у Польшчы не чакаючы сьвятаў, вялікай праблемы няма. Чатырохдзённая вандроўка, напрыклад, з наведаньнем Кракава, Варшавы й Вялічкі зь яе салянымі скульптурамі будзе каштаваць 40—60 даляраў. Начаваць давядзецца ў дзьвюхзоркавым гатэлі. Нумар будзе мець усе выгоды — тэлевізар, тэлефон, электрычны чайнік. Калі ў рэкляме шматдзённай вандроўкі заяўлены гатэль, ведайце, што клапатлівыя турыстычныя агенцыі арганізуюць харчаваньне на месцы, у рэстарацыі гатэлю. Аматараў вострых адчуваньняў зацікавяць гарналыжныя туры ў тую ж Польшчу. Тыдзень адчуваньняў каштуе 230 даляраў.

Надакучыла Ўсходняя Эўропа — можна выправіцца ў Францыю, Галяндыю й Нямеччыну. Дзевяцідзённы тур абыдзецца ў 300 даляраў без уліку візы. Начаваць давядзецца ў дзьвюхзоркавых гатэлях, а за наведваньне музэяў ды тэатраў — плаціць з сваёй кішэні. "Дарослы" квіток у Эўрадыснэйлэнд пад Парыжам каштуе 35 эўра, вежа Эйфэля — 4—10 (залежыць ад таго, на які ўзровень падымацца).

А надакучылі зімовыя краявіды — добрага шляху ў сонечную Каталёнію за 500—600 даляраў. Што ж да экзатычных выспаў, кшталту Мальдзіваў, дык квіток туды каштуе 1000 даляраў. Сустрэнеце Новы год, хаваючыся ад пякучага сонца.

**Аляксей Чубат**

# ВО ДЗЕ АРТ!



**У менскім выстаўным цэнтры "Белэкспа" 6—7 сьнежня адбыліся аж два спаборніцтвы цырульнікаў — IV адкрыты конкурс краіны па цырульным мастацтве і Кубак Менску па цырульным мастацтве й дэкаратыўнай касмэтыцы. Паралельна адбываліся паказы мод, выставы прадукцыі вытворцаў парфумы ды касмэтыкі, працавалі візажысты й майстры бодыарту — мастакі, што малююць на чалавечым целе. Гледачы маглі назіраць за працэсам пертварэньня чалавека ў рухомы шэдэўр.**
**Фота Анатоля Клешчука.**



на экранах

# Сабака — сябра чалавека!

**Пра гэта лішні раз нагадвае амэрыканскі фільм "для сямейнага прагляду" (г.зн. без мачылава і каханьня) "Скубі-ду" (так завуць галоўнага пэрсанажа — сабаку).**

Такі фільм міжволі параўноўваеш зь "Белым Бімам Чорным Вухам" Траяпольскага ды "Добрым хлопцам Дзікам" Максіма Танка. Сваю трактоўку прапануе Галівуд: Скубі-ду не дае прынесьці сябе ў ахвяру злым сілам і тым уратоўвае ўдзячнае чалавецтва ад паглыбленьня ў цемру. Аднак "Скубі-ду" цяжка параўнаць з "Гаспадаром і яго сабакам" Томаса Мана або "Флэшам" Вірджыніі Вулф. Гэтая кіношка — экранізацыя не высакаякаснага літаратурнага твору, а газэтна-часапісных коміксаў. Дый арыгінальнага сюжэту "Скубі-ду" ня мае, а ўяўляе сабой сукупнасьць спасылак на іншыя блякбастэры.

Рэальнасьць амаль кожнага галівудзкага фільму — гэта казка з элемэнтамі сапраўднага жыцьця. У "Скубі-ду" казачны антураж падкрэсьліваецца: прыдуркаваты сабака вярзе лухту, сілкуецца гамбургерамі, ходзіць у жаночай сукенцы — і нікога гэта не зьдзіўляе. Як не зьдзіўляе, што галоўным мярзотнікам аказваецца не экстравагантны ўладальнік вострава (Роўэл Аткінсан), а іншы гаварлівы сабака — разумны і небясьпечны вар'ят.

Успрымаць усур'ёз гэтую казку немагчыма. Таму кожны эпізод зьмяшчае прыколы часам бязглуздыя, і жарты, часам "туалетныя". Аднак дзякуючы дынамічнаму мантажу і больш-менш старанный гульні актораў юны глядач можа засвоіць прыблізна наступныя ісьціны: 1) сяброў нельга кідаць у бядзе, 2) трэба шанаваць сяброў, не зважаючы на ўсе іхнія прыбабахі ды нестандартныя паводзіны, 3) за дабро і сьвятло ва ўсім сьвеце трэба змагацца да апошняга. Зразумела, дзеля навучаньня такім важным ісьцінам Галівуду не шкада пары мільёнаў.

А мне "Скубі-ду" нагадаў, што некалі і "Беларусьфільм" здымаў карціны, якія каштавалі танна, але нагадвалі юным гледачам тыя ж простыя і каштоўныя ісьціны. Таму "Скубі-ду" выклікае і сьмех, і захапленьне, і настальгію, і шкадаваньне.

**Ягор Конеў**



Вольга Цяцёркіна

# Полацкія прывіды

**Цяжка паверыць, што Полацак насамрэч існуе. Што ёсьць тысячагадовае места, якое стаіць на паганскіх капішчах, заклятых скарбах, езуіцкіх лёхах, шмат'ярусных могільніках, схронах і сьметніках. Ён нагадвае стопавярховы будынак, на самым вершачку якога жывём мы. Падмурак і першыя паверхі схаваныя ад нас хмарамі непацьверджаных гістарычных зьвестак. Адтуль мы чуем ціхую казань апостала Андрэя і тупат гунскае коньніцы. На лёдзьвю дзясятага паверху выходзіць Рагнеда: ці ня едуць з Кіева сваты? Іван Жахлівы з стральцамі, коньмі, аркебузамі, гарматамі, папамі і плахамі падымаецца ў грузавым ліфце на шасьцідзясяты паверх. На кавалачку паперы — адрас: кв. 1563. На дзевяностым — рамонт: біскуп Сямашка выносіць з Сафіі ўніяцкае начыньне і скідае ў сьмецьцеправод. Але хто гэта сьлізгае між паверхамі, не зважаючы на сьцены і столевыя перакрыцьці? Чые — здавалася б, зусім не вызначальныя ў гісторыі места — імёны ад дзеда-прадзеда ведаюць сёньняшнія палачане? Гаворка пра полацкіх прывідаў, неадменныя атрыбуты любога старога места. Рэстравацьі ўпарадкаваць зьвесткі пра іх нам дапамог пісьменьнік Уладзімер Арлоў — найбуйнейшы на сёньня спэцыяліст па полацкіх зданях.**

*Андрэй Скурко*



ЛЯ КІЙКО

### Айцец Папэ

Калі Папа Клімэнт XIV у 1773 г. забараніў Таварыства Езуса ва ўсім сьвеце, езуіты ацалелі толькі на беларускіх землях, захопленых Расейскай імпэрыяй. Сталіцай ордэну стаўся Полацак. У месьце па-ранейшаму працаваў езуіцкі калегіюм, які ў 1812 г. ператварыўся ў Акадэмію. Там вучылася 700 студэнтаў, лекцыі чыталі выкладчыкі з Італіі, Нямеччыны, Аўстрыі, ставала й беларусаў.

Езуіты не былі насупленымі занудамі, засяроджанымі толькі на справах адукатарскіх і духоўных. Сьведчаньне гэтаму — наяўнасьць у сутарэньнях Акадэміі віннага склепу. Гаспадарыў там айцец Папэ. Штодня ён рабіў абход — нясьпешна тэпаў між вялізных дубовых бочак з выдатным старым мёдам-трайняком. Часам спыняўся, падазрона аглядаў якую зь іх і нацэджваў сабе кубак — праверыць, ці не сапсаваўся часам напой. Дый для здароўя карысна: кухаль гэткага мёду адолее любую прастуду. Сьцюдзена ў тых скляпох, асабліва чалавеку немаладому... "Мае ўнукі", — казаў ён пра студыёзусаў. І тыя дужа любілі таварыскага айца-жыцьцялюба. Памятаеце, зь якой цеплынёю яго згадвае адзін з герояў "Шляхціца Завальні"?



**Ян Баршчэўскі і Габрыэль Грубэр у розны час, але з аднолькавай прыемнасьцю выпівалі з айцом Папэ.**

Прывід айца Папэ дагэтуль зьяўляецца ў калідорах былой езуіцкай акадэміі. Там яго, відаць, і пабачыў мастак-кераміст Алесь Бердашкевіч, які стварыў вобраз вясёлага манаха — зь вялікім келіхам, ёмістай пляшкаю ды ключамі ад вінарні. Выява тая ўпрыгожвае кніжную паліцу Ўладзімера Арлова.

### Габрыэль Грубэр

Яшчэ адзін езуіт, які дагэтуль ня мае супакаеньня, — Габрыэль Грубэр. Яго называлі "душою, розумам і правадыром беларускіх езуітаў". Матэматык, гісторык, хімік, музыка, мэдык, мастак, кандытар — усё, за што браўся Габрыэль, у яго ўдавалася. Ён вольна гаварыў сямю мовамі, быў генэралам Ордэну, рэктарам створанага ў Пецярбургу езуіцкага калегіюму. Гэта ён ініцыяваў ператварэньне полацкага калегіюму ў Акадэмію. Але пабачыць плён сваіх намаганьняў не пасьпеў: трагічна загінуў падчас пажару ў сваёй рэзыдэнцыі. Найверагодней, загарэлася яна ня проста так: таленавіты й магутны Габрыэль Грубэр меў досыць зайздросьнікаў і ворагаў.

Ягоная здань упадабала полацкі езуіцкі "гарадок", які фрагмэнтарна ацалеў да нашага часу. У адным з карпусоў цяпер месьціцца шпіталь Міністэрства абароны. На жаль, гэта ўстанова закрытага тыпу, і высьветліць у пацыентаў, ці часта езуіцкі генэрал там зьяўляецца, досыць складана. Прыемней думаць, што Габрыэлю, як аматару мастацтва, больш даспадобы новая карцінная галерэя, што адчынілася ў мурах Акадэміі напярэдадні сёлетніх "Дажынак".

### Французскі гусар

Паблізу Ніжняга замку, у цёмных прысадах вала Івана Жахлівага, можна сустрэцца з прывідам у мундзіры францускага гусара. Існуюць дзьве вэрсіі што да ягонага паходжаньня. Згодна зь першай, гусара таго атруціла маладая мілосьніца-шляхцянка, якой ён здрадзіў з шынкаркай. Паводле іншае вэрсіі, "Чорны афіцэр" — несупакоеная душа аднаго з францускіх ваякаў, што пахаваныя ў брацкіх магілах на беразе Дзьвіны.

### Дзяўчынка-габрэйка

Паблізу Полацку, на Валовай азярыне, дзе ў паганскія часы было капішча Перуна і Бабы-Ягі, людзі почасту бачаць здань маленькай габрэечкі зь белым ад жаху тварыкам, чуюць ейны плач. У 1563 г. Полацак, які тады пераўзыходзіў багацьцем сталічную Вільню, захапілі войскі Івана Жахлівага. Усходні цар пастанавіў зьнішчыць усіх "іншаверцаў". Пачалі з габрэяў. Іх, як сьведчыць летапіс, стральцы тапілі ў Дзьвіне ды ў Валовай азярыне, сьпіхвалі ў палонкі пад лёд. Дзіва што тая напалоханая габрэечка ніяк ня можа супакоіцца.

Ня быў маскоўскі цар літасьцівы й да тутэйшых аднаверцаў: каго пабіў, каго ў палон вывеў. Пад ягонай рукою Полаччына абязьлюдзела.

Sehr grewliche/erschröckliche/vor unerhörte/warhafftige Newe zeytung/was für grausame Tyranney der Moscowiter an den Gefangnen/hinweggefürten Christen auß Lyfland/beyde an Mannen und Frawen/Junckfrawen und kleinen Kindern begehe, und was täglichs schadens er jnen in jrem Land zufüget/Beyneben angezeygt/in was grosser fahr und nodt die Lyflender stecken. Allen Christen zur warnung/und besserung jhres Sündtlichen lebens/auß Lyfland geschriben/und in Druck verfertiget.




**Маскоўскія купідоны. Стральцы Івана Жахлівага заляцаюцца да беларускіх жанчын даступным ім спосабам. Гравюра 1561 г.**

### Адам, Дамінік і Пётра

Пасьля зьнішчэньня юдэяў і мусульманаў, стральцы Івана Жахлівага ўзяліся за каталікоў. У лік ахвяраў трапілі манахі Адам, Дамінік і Пётра. Тры здані час ад часу зьяўляюцца ўначы каля магілак сьвятога Ксавэр'я, палохаючы закаханых і аматараў прадукцыі полацкага вінзаводу, што, пабачыўшы тры цёмныя постаці ў сутанах з капюшонамі, умэнт цьверазеюць.

### Котка з сапфіравымі вачыма

У сярэдзіне XVI ст. у Полацку жыла выляжанка (путана, кажучы сучаснаю моваю) Даміцэля. Яна была вядзьмаркаю і магла ўвесну перакідацца ў котку ды маркітавацца з катамі. У жаночым абліччы Даміцэля спакусіла процьму палачанаў і гасьцёў старажытнага гораду. Мужчынамі не абмяжоўвалася — і ў кашэчым, і ў чалавечым абліччы была бісэксуалкай.

Аднойчы на яе вабноты зьвярнуў увагу сам Сьцяпан Батура. Выляжанка трапіла ў абдымкі караля, і яны з прыемнасьцю бавілі час. Але нехта з прыдворных (відаць, ваявода Кашпар Бекеш, які дбаў пра дзяржаўны інтэрас) вырашыў, што вялікаму князю ня варта рэгулярна класьціся ў ложак з жанчынаю лёгкіх паводзінаў, няпэўнага паходжаньня і сумнеўнай будучыні. І Даміцэлю пачаставалі адмысловым вінОм. Канаючы ад атруты, яна ператварылася ў котку з сапфіравымі вачыма, скочыла з ложка і зьнікла ў анфілядах княскага палацу.

Цяпер котку-Даміцэлю можна бачыць у месяцавыя ночы на Верхнім замку, каля Сафіі. Часам яна перакідаецца ў жанчыну, каб спакусіць якога начнога мінака проста за Барысавым каменем.



**Вялікі князь і кароль Сьцяпан Батура быў сярод тых, хто трапіў у гарачыя абдымкі вядзьмаркі Даміцэлі. Стары дрэварыт.**

---

Людка Сільнова

## Ты не тэлефануеш мне



I.

Наяве
А ці ў змрочным сьне –
Ты не
Тэлефануеш мне.

Мінае дзень,
За ім другі –
Як нізка
Пэрлін дарагіх,

Падораная
Мне Айцом,
Ірвецца
Перад дзён канцом...

II.

Ты не
Тэлефануеш мне.
Вайна спакою!
Мір вайне!

Ружанец
Несказаных слоў
У лужыну ўпушчу,
У кроў.

Навокал – стогнуць.
І бягуць...
Машыны,
Фабрыкі гудуць!

Наяве?
А ці ў змрочным
сьне?..
Ты не
Тэлефануеш мне.

III.

Аднойчы
Сьветлы ранак мне
Падкажа:
Гэты боль – міне.

Мінае ўсё.
Мінаем мы...
Як сьвяты
Пасярод зімы.

# Крыжаванка

Склаў Сяргей Петрыкевіч

**ПА ГАРЫЗАНТАЛЯХ:** 1. Тое, што для марксістаў абумоўлівае надбудову. 3. Гэтых установаў адпачынку шмат у беларускіх прафсаюзаў. 5. Слуцкую ... па вытворчасьці шаўковых паясоў заснавалі Радзівілы. 9. Прыемны пах, а ў Менску таксама гатунак хлеба. 10. Конусападобны канал для рэгуляваньня патоку вадкасьцяў ці газаў. 11. Яны бываюць у мастох і дамох. 13. Збудаваньне для трэніровак і спаборніцтваў па вэля- і матаспорце. 16. Доўгая паласа з тоўстай скуры або моцнай тканіны для перадачы руху ад аднаго шківа да другога. 17. Да гэтай ракі ў Расеі разьлягалася Вялікае Княства Літоўскае ў часы сваёй найбольшай магутнасьці. 19. Фільм Альмадовара. 22. Гонкі на байдарках і ... . 23. Беларускі рок-гурт, а таксама парываньне, напорыстасьць. 25. Зямельны ўчастак сялянскай сям'і. 26. Аўтар опэры "Дзікае паляваньне караля Стаха". 27. На іх дагэтуль гавораць, асабліва на Палесьсі. 28. Другі міністар замежных справаў Беларусі. 30. Узброеныя сілы. 32. На камунальныя паслугі яны ўсё растуць і растуць. 33. Канец — справе ... . 34. Вінтакрылы лятальны апарат, папярэднік гелікоптэра. 37. Машына па-ангельску. 38. Выбівайце іх у касе. 39. Каштоўны мінэрал, а таксама завод у Менску. 41. У гэтым горадзе цёмныя ночы. 42. Найлепшае багацьце: у адных яго сьвіньні зьелі, да другіх ён прыходзе па шкодзе. 43. Нядаўна мы іх паміналі. 44. Вялікае ўменьне. 49. Раней ён замяняў грамадзкі транспарт. 50. Тое, што напісана або надрукавана, частка моўнай плыні.



**ПА ВЭРТЫКАЛЯХ:** 1. Афрыканская моўная група. 2. "Паміж пяскоў эгіпэцкай зямлі". 3. Заступнік мастацтваў і рамёстваў у старажытна-эгіпэцкай міталёгіі. 4. Ад яго Тураў стаў. 5. Родная, матчына ... . 6. Памер кнігі, аркуша, старонкі. 7. Вадаспад з уступамі. 8. Лукашэнка ніяк не аддасьць яго расейцам. 11. Слой паніжанай вязкасьці ў верхняй мантыі Зямлі, які падсьцілае літасфэру. 12. Не анод, але таксама электрод. 14. Запаленьне сьлізістай абалонкі носа. 15. Горад на поўнач ад Мазыра. 16. Празьмерная пахвала. 18. Пра гэта мараць стомленыя. 19. Радзіма мамалыгі. 20. Прадукт акісьленьня, які ўтвараецца на паверхні нагрэтага мэталу пры ўзаемадзеяньні з паветрам. 21. Аднародная сумесь некалькіх рэчываў у выглядзе вадкасьці. 22. Квадрат гіпатэнузы роўны суме квадратаў ... . 24. Від мастацтва, практыкаваны наведнікамі дыскатэк. 29. Эстонскі горад, дзе жывуць расейцы. 31. Пад яго іншы раз кладуць справы. 35. У старых пабудовах гэтых перапончатакрылых насякомых хаваўся "пятнаццацігадовы капітан". 36. "Акоў паломаных ...". 40. Месца паміж палубай і сподам судна для разьмяшчэньня мэханізмаў і грузаў. 41. Абрадавае беларускае пітво — мёд, разьведзены гатаванай вадой. 45. Ім высьцілаюць падлогі на Сёмуху. 46. На іх, паводле Сокалава-Воюша, кроў. 47. Так можна пераносна назваць і савет рэспублікі. 48. "Быў час, быў ..., была эпоха".

**Адказы ў наступным нумары.**

# Лапы мерзнуць!

**Адзін сабака адчуў**, што надыходзіць час, калі ён ператворыцца ў Граждана. І, пакуль яшчэ былі сілы, вырашыў павярнуць сібірскія рэкі ў Азію, каб і смаркатыя вярблюды адчулі радасьць жыцьця.

**Аднаму сабаку прысьнілася**, што ён Шамаханская царыца і яму ўсе граждане служаць. А Граждану сьніліся чорныя мальчыкі, якіх ён бачыў у заапарку.

**Адзін сабака прастыў** і не пайшоў на працу. Да яго прыбег Граждан і прапанаваў адрачыся ад старога міру і выпіць адэкалёну.

**У аднаго сабакі** з надыходам маразоў зрабілася халодна ў кватэры. У іншага сабакі прапала гарачая вада. І толькі Граждан радаваўся: ад марозу ў яго ў ложку падохлі ўсе блохі.

**Адзін сабака пасьлізнуўся** і апрытомнеў загіпсаваны ў лякарні. Граждан пасьлізнуўся і доўга ляжаў на тратуары, а калі ачуняў, сказаў: "Зь біялагічаскай точкі зрэння яйцаноскасьць кур мала завісіць ад прысутствія пітуха..."

**Аднаму сабаку стала халодна**, і ён цёпла апрануўся. А Граждан, адчуўшы холад, пачаў званіць у міліцыю і патрабаваць прадаўжэньня банкету.

**В.К.**



## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**11 сьнежня** ў цудоўнай дзяўчынкі Наты Водзіч Дзень нараджэньня. Павіншуйце і пажадайце сонца, мора і бананаў!

**Віншуем Натальку Водзіч** і Максіма Багдановіча з Днём народзінаў. "...Не разьбіць, не спыніць, не стрымаць!"

**Хлопцы-беларусы віншуюць** Натальлю Водзіч з асабістым сьвятам. Нас мала, але мы ёсьць! Жыве Беларусь!

**Тусік**, мы, вядома, усе цябе любім, але некаторыя — асабліва. Улічы гэта як зьмякчальную акалічнасьць

**З Днём народзінаў** роднага Тусіка! ЛЁхаім (у сэнсе — за цябе)

**Спадар Л.** віншуе Тусіка і просіць, каб у ейнай любімай газэце прагучаў палянэз Агінскага

**Тусік**, зычэньне табе да Дня народзінаў: ня вер кавалерам. Акрамя аднаго. Дый той — падманшчык

**10 сьнежня** — Дзень правоў чалавека, 11 — Дзень народзінаў гэтага чалавека. Усё ў гэтых беларусаў ня як у людзей

**Тусіка** віншуюць яе лепшыя сябры: Горын, Мюнгаўзэн, Толкін, Фрода, Арагорн, Гендальф, Эслан, Люсі

**Тусіка** віншуюць з Днём народзінаў яе лепшыя ворагі: ППРБ, ін, Саўран, вядзьмарка, герцаг, баранэса

**Спадары настаўнікі** МДЛУ! У гонар Дня народзінаў Тусіка не валіце яе на іспытах. Яна харошая

**Тусік**, табе зноў 18! Колькі можна?!

**Прыўкрасная незнаёмка!** Віншуем і зычым шчас. І ўсіх. Да!

**Тусік**, ты — найлепшая з гаспадыняў. Толькі кармі часьцей і меней балбачы па тэлефоне. Сакрат

**Тусік**, абяцаю да наступнага Дня народзінаў вывучыць фразы "Жыве Беларусь!" і "Ласкава запрашаем спадара ЛЁ". Сакрат

**Менская міліцыя** віншуе Тусіка і прапануе сьвяточны тур: пл. Я.Коласа — Опэрны тэатар — цьфу-цьфу-цьфу

**Лінгвістычны ўнівэр** віншуе Тусіка з Днём народзінаў. Сэнк ю вэры мач. Ай, лаўлю! God, by!

**Нашыя шанаваньні**, віншаваньні і бясконцая ўдзячнасьць Мусіку за тое, што нарадзіла такога цудоўнага Тусіка

**Віншую кіраўнікоў** грамадзкіх арганізацый-грантасмокаў з Днём дзяцей лейтэнанта Шміта. А.Б.

### ідэі

**На Палесьсі** не ўрадзілі жалуды... Станіслаў

**Лепей есьці** бульбу сваю, але малую, чым сеяць кукурузу ў Сібіры!

**Узурпатар** абвясьціў "мясцовыя выбары" генэральнай рэпэтыцыяй, якая мае для яго "выключнае значэньне" Ганьба акторам і статыстам злавеснага сцэнару!

**ЛЁ**+ЛІ=К

**Карляс Кастанэда** пісаў, што людзі падзяляюцца на ваяроў і жабракоў. Ваяр ніколі нічога ня просіць. Цытаваў А.Б.

**Барані, Уладару,** ад усялякіх рэфэрэндумаў ды выбараў, пад любой поліўкай, пры гэтым рэжыме, пры гэтых ЦВК і ВК (выбарчых камісіях)

**Зрабіце калядны** падарунак філёлягу! Слоўнікі Некрашэвіча/Байкова, В.Ластоўскага ў любым стане! Т.: (277) 72-6-90 (пасьля 16.00)

**Нешта зарана** распачалі ўжо зьяўляцца тужліўцы на самую "няпыльную" пасаду? Спадары, пачакайце! Будучы Прэзыдэнт РБ

**Гранты** — СНІД беларускага грамадзкага руху А.Б.

### in memoriam

**У ЗША памёр** беларускі дзяяч Уладзімер Брылеўскі (1917—2002). На чужыне ён апынуўся ў часе другой сусьветнай вайны, перад тым на Бацькаўшчыне браў актыўны ўдзел у нацыянальным руху. На старонках нью-ёрскага "Беларуса" Брылеўскі надрукаваў цікавыя ўспаміны пра Вацлава Іваноўскага, Вінцэнта Гадлеўскага, Асьветнае таварыства беларусаў у Варшаве ды інш. Пахавалі дзядзьку Уладзімера на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.

### кантакты

**Прадаюцца** саламяныя званочкі на елку. Т.: 250-98-67 (увечары)

**Запрашаем дзяцей** да ўдзелу ў мастацкім праекце (аўтарства Алеся Пушкіна) па аздабленьні капліцы на Каляды. Т.: 250-98-67

**Літаратурныя чытаньні** на тэму "Публіцыстыка Янкі Купалы і І Усебеларускі зьезд" адбудуцца ў Менску 18 сьнежня ў 17.30 ля помніка Я.Купалу

**Пераехалі настала ў Раўбічы** і шукаем кола беларускамоўных знаёмых у Раўбічах, Аколіцы, Астрашыцкім Гараду ды ваколіцах. Ёсьць жа гэткія? То тэлефануйце па менскім нумары 268-25-88 у працоўны час Уладзімеру

**Наста!** Фоткі атрымаў. Вялікае дзякуй! Юрась, Мазыр

**Павал!** Касэты я распаўсюдзіў у Мазыры і ў Рэчыцы. Юрась, Мазыр

**Дзяўчыне** 90-60-90 падару ідэі культурніцкіх праектаў для атрыманьня грантаў. Т.: (0163) 45-49-31

**Два студэнты** шукаюць сваю адзіную Беларусачку, здольную быць сяброўкай і каханкай адначасова. Падрабязнасьці пры ліставаньні: vaukalak@rambler.ru

### кнігі, музыка

**БМАgroup прапануе** касэты й дыскі з калянднымі й навагоднімі зьніжкамі (Віктар Шалкевіч, Partyzone, Тройца, С.Сокалаў-Воюш і інш.). Заробак для распаўсюднікаў у Менску і на рэгіёнах. Т.: (8-0296) 49-08-88, пэйдж.: 211-85-85, аб.БМА. Адрас: а/с 5, 220085, Менск. E-mail: vital@tut.by, www.BMA.home.by

**Прадам кнігу** Васіля Быкава "Пахаджане", кнігу Зьмітра Бартосіка "Чорны пісталет" і кнігу Алеся Пашкевіча 'Пляц Волі". Т.: 254-77-59 (Аляксей)

**Беларускія CD**, аўдые, відэа, кнігі, паштоўкі, саколкі можна замовіць у Мазыры. Юрась. Т.: 30-7-13

**Дапамажыце**, калі ласка, з кнігамі для навучаньня літоўскай мове. Т.: (01593) 32-5-03. Уладзімер

**Куплю кнігу** Э.Акуліна "Крыло анёла", Р Баравіковай "Сад на капялюшыку". Тацяна. Т.: 251-19-52

**Кнігу вершаў** Тацяны Барысюк "Аўтапартрэт" можна набыць у сядзібе ТБМ або па тэл.: 251-19-52

### праца

**Тканыя паясы** на замову. Ніводзін узор не паўтараецца — кожны працягвае традыцыю. Каштоўны падарунак Т.: 252-86-28

**Праца для дзелавых** людзей, навучэнцаў. Добры заробак у вольны час. Раіса. Т.: 207-00-00, аб. 20819

### студэнцкі білет

**Студэнцкі білет** №004094 БАТУ на імя Новікава А. лічыць несапраўдным

**Студэнцкі білет** №004092 БАТУ на імя Макара В. лічыць несапраўдным

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## паштовая скрынка

**Алегу А зь Менску.** Падручнікі з клясычнага правапісу найпрасьцей знайсьці ў Інтэрнэце: Браніслаў Тарашкевіч "Беларуская граматыка для школ" http://txt.knihi.com/taraskievic/hramatyka; Вінцук Вячорка "Пішам тарашкевіцаю. 10 памятак беларускага правапісу" http://www.nn.by/1998/18/04.htm. Тамсама ёсьць і "Слоўнік беларускае мовы (клясычны правапіс)" http://slounik.hypermart.net/.

**Аўтару "Тралейбуса".** Гэта яшчэ не газэтнае апавяданьне. Пішаце хораша, стрыжань у Вас моцны. Трэніруйцеся, змушаючы сябе пісаць у клясычных жанрах. А гэтую штучку аддайце ў літаратурную газэту ці выданьне для моладзі.

**Тэдзе Лі.** Працягу музычных рэцэнзій мы ад Вас так і не дачакалі. Пытаньне зь першай порцыяй: чаму менавіта гэтыя, а ня іншыя альбомы рэцэнзуюцца? Калі б гэта была рэцэнзія на "два найлепшыя альбомы мінулага месяца", пайшло б цікавей. Што да стылю: калі даеш столькі ангельскага тэксту, варта паклапаціцца пра якасны пераклад. Ня ўсе ж чытачы добра ведаюць па-ангельску.

**Арцёму А. з Вэцляра.** Гатовыя надрукаваць афарызмы Кафкі, калі дашляце нам арыгінал (у электронным выглядзе — тэкставым файлам ці сканаванай карцінкай — або ксэракопіяй). У Менску мы яго не адшукалі.

**Сяргею Б. з Гомеля.** "Лімэрыкі ліцьвінаў" — матэрыял для часопісу. Прапануйце "Arche" ці "Дзеяслову".

**Гервазію.** Гэта яшчэ не эсэ: яно замалое, а сэнс, укладзены ў яго, будзе зразумелы толькі людзям, блізка з Вамі знаёмым.

**Настасьсі М. зь Менску.** Ваш "Шарсьцін" напісаны ў рэчышчы беларускай літаратуры 90-х. Такія творы могуць трапіць на старонкі "НН" толькі ў якасьці выключэньня. Вы замаладая, каб мы маглі зрабіць такое выключэньне Вам. Вы напісалі свой твор, не выходзячы з кватэры. Ён не нясе вялікай інтэлектуальнай нагрузкі, ягонаму стварэньню не папярэднічала "палявая праца": сядзеньне ў бібліятэцы, рызыкоўныя гутаркі зь людзьмі, збор цяжкадаступнай інфармацыі. Калі пачатковы капітал настолькі мізэрны — дзіцячыя ўспаміны, ня ўкрытыя пацінай жыцьцёвага досьведу, — дык і даданая вартасьць ня можа выйсьці вялікай. Вы добра пішаце, у Вас пекная мова. Цяпер Вам ужо не ісьці за айчыннымі ўзорамі, а вучыцца на добрай — і пасьпяховай — перакладной літаратуры.

**Аўтару "Textasy".** Вы маеце рацыю: з гэтага сапраўды выйдзе спраўны пачатак псэўдагістарычнага псэўдадэтэктыву альбо эратызаванага апавяданьня.

**Пятру Д. зь Вялікага Сяла.** Добра было б, каб Вы стала пісалі нам пра тое, што дзеецца ў Вашых краях.

**Уладзю Г. зь Віцебску.** Вашае апавяданьне: маці ад чужых людзей дазнаецца, што яе сын — беларускамоўны. Нейкая няўдалая алегорыя.

**К.Т. з Магілёўскай вобл.** Адносіны паміж кіраўнікамі дзяржаваў, як і між людзьмі наагул, мусяць вызначацца не эканамічным становішчам, а чалавечай годнасьцю і ўзаемапавагай.

**Мікалаю Г. з Маладэчна.** Зваротаў да прэзыдэнта Беларусі "НН" не друкуе. Матэрыялы Вашае справы перадамо ў Праваабарончы цэнтар "Вясна".

**Віялеце П. з Кастрыцы.** "НН" стала пісаць пра палітыку болей, бо незалежных выданьняў, якія пра яе пішуць, няшмат. Пра "мастацтва" пішам ня менш. Тэлеппраграма ашчаджае грошы: чытачам не даводзіцца да "НН" купляць яшчэ нейкую газэту адмыслова дзеля праграмы. А ў нас чалавек можа чытаць яе па-беларуску клясычным правапісам. Такога больш ні ў якай газэце няма.

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| тэхнічны рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**www.nn.by**



8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3901.

Нумар падпісаны ў друк 11.12.2002.

Замова № 8483.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а